# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 26 (2272)

25 чэрвеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)



Салдат той, для яго далёкай, а для маладых пакаленняў невядомай, вайны. Мы бачым яго ў будзённым натоўпе з пабляклымі і выцвілымі ад часу планкамі ўзнагарод, затузанага сённяшнім пахмурным жыццём. Хочам мы таго ці не, а ён нагадвае нам, што 22 чэрвеня 1941 года цудоўна-прыгожым чэрвеньскім раннім ранкам у нашы хаты, у наша жыццё, у нашу гісторыю ўварвалася вайна.

Навукоўцы цяпер вагаюцца, ці называць яе Вялікай Айчыннай, палітыкі хочуць давесці, што ніякага вераломнага нападу Германіі на СССР не было, і ўжо ў нашай свядомасці ўжываецца новы стэрэатып — Гітлер і Сталін аднолькава вінаватыя перад светам за ўзнікненне той вайны. Калі астыне запал дыскусій і супярэчлівых меркаванняў, гісторыя расставіць усё па сваіх месцах і адмерае кожнаму належнае.

А сёння мы нагадваем усім беларусам: і тым, хто ацалеў тут, і тым, хто ўратаваўся за мяжой: 51 год назад наша зямля скаланулася ад першых выбухаў вайны...

Фота А. КЛЕШЧУКА.

«Гэты артыкул з'яўляецца спробай прааналізаваць адносіны прадстаўнікоў польскага руху да беларускага. Аналіз заснаваны на публікацыях віленскага польскага друку 1905—1907 гадоў. Як гістарычная крыніца гэты друк савецкімі гісторыкамі не даследаваўся. Гісторыкі Польшчы не разглядалі яго ў якасці крыніцы па гісторыі нацыянальных адносін. Але яго вывучэнне дазваляе па-новаму глянуць на многія праблемы гісторыі Беларусі і Літвы».

(«ТАК БЫЛО, ТАК ПАВІННА БЫЦЬ»)

Стар. 4.

ПРОСІМ вас дапамагчы нам, украінцам Берасцейшчыны. Не з уласнай волі апынуліся мы па-за межамі Украіны, і нас па чарзе намагаліся асіміляваць то палякі, то вялікаросы, то беларусы. Нашы продкі данеслі да нас і перадалі нам украінскую мову, культуру, народныя традыцыі. Мы таксама хочам зберагчы іх і перадаць нашым дзецям і ўнукам.

**Праўленне Украінскага грамадскага культурнага аб'яднання Брэсцкай вобласці (УГКА БВ).**

г. Брэст,
Беларусь.

## А НА ПАЛЕССІ ГОМАН

# «ЗАБЫТАЕ ПЛЕМЯ»

**Гэты ліст разам з запрашэннем прыехаць на суд мы атрымалі ў студзені сёлетняга года. Прыехаўшы ў Брэст, сустрэліся са старшынёй аб'яднання М. КАЗЛОЎСКІМ.**

— Наша аб'яднанне, — гаворыць Мікола Сцяпанавіч, — створана 18 лютага 1990 года, і 12 красавіка таго ж года яно было зарэгістравана Брэсцкім аблвыканкомам са статусам аматарскага. (Дарэчы, гэта першая дзеючая ўкраінская арганізацыя ў той частцы Палесся, якая ў свой час адышла да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — **Н. Б.**). А праз год, 23 верасня 1991 года, Брэсцкі аблвыканком сваім рашэннем адмовіў нам у рэгістрацыі статута УГКА БВ, чым фактычна пазбавіў нас права на існаванне і паставіў па-за законам.

**— Што паспела зрабіць аб'яднанне за час свайго існавання?**

— У нас створаны і дзейнічаюць асяродкі УГКА БВ у Брэсце, у раёнах — Берасцейскім, Камянецкім, Драгічынскім, Кобрынскім, Жабінкаўскім ды Пінскім. Пад эгідай УГКА ў горадзе Брэсце працуе ўкраінскі народны універсітэт культуры. Дзякуючы намаганням, вялізным высілкам члена аб'яднання Веры Бабко, у 1991—92 навучальным годзе 162 вучні ў школах Кобрына і Драгічынскага раёна вывучаюць родную ўкраінскую мову. Мы выпусцілі ўжо два нумары газеты «Голос Берестейщини».

**— А можна пазнаёміцца з вашым часопісам? Тым больш, што, зазірнуўшы ў некалькі кіёскаў горада, на жаль, ніводнага выдання на ўкраінскай мове я не ўбачыла.**

— Калі ласка. Дарэчы, ужо ў першым нумары мы звярталі ўвагу нашых чытачоў на тую акалічнасць, што ва ўкраінскамоўнай частцы Брэсцкай вобласці, дзе пражывае прыблізна 1 мільён людзей, не выдаецца ніводнага часопіса на роднай мове.

**— Хацелася б больш падрабязна пачуць пра гісторыю вашага краю.**

— Да 1341 года наш край быў састаўной часткай Валынскага ды Галіцка-Валынскага княстваў. Наша мова, культура, традыцыі бяруць свой пачатак ад валынян, якія ў сваю чаргу з'яўляюцца творцамі і носьбітамі ўкраінскай культуры і мовы. За доўгія стагоддзі няволі паны-чужынцы намагаліся пазбавіць карэннае насельніцтва ўсяго нацыянальнага: палякі не прызнавалі за намі права належаць да якога-небудзь народа, называлі нас «палешукамі». Як дабро навязвалі нам апалячванне — «далучэнне да польскай культуры». У 1939 годзе сталінскі рэжым назваў нас беларусамі ды далучыў нас да Беларусі. Хто «добраахвотна-прымусова» не пагаджаўся з гэтым, ішоў на вялікую небяспеку быць рэпрэсіраваным. Тады ж старажытную назву, вядомую яшчэ з летапісаў, найбуйнейшага горада Палесся і аднаго з самых буйных гарадоў Заходняй Украіны — Бярэсця замянілі расейскай назвай Брэст. Было зроблена ўсё, каб Украіна выкрасліла са сваёй гісторыі Палессе — гэта «забытае племя» ўкраінскага народа, як назваў палешукоў Іван Франко.

**— Пазнаёміўшыся з другім нумарам «Голосу Берестейщини», даведваемся пра ўкраінскі культурны ўздым у Прыбужскім краі ў другой палове 20-х гадоў, пра дзейнасць украінскага таварыства «Просвіта». З якога часу пачаўся заняпад украінскай духоўнасці на Берасцейшчыне і што было таму прычынай?**

— Пачынаючы з 1939 года афіцыйныя ўлады перасталі прызнаваць факт існавання на Берасцейшчыне карэннага ўкраінскага этнасу. На Берасцейшчыне ажыццяўлялася палітыка гвалтоўнай беларусіфікацыі. Можна прывесці шмат прыкладаў, калі пры выдачы пашпартоў украінцам без іх згоды органы міліцыі самавольна змянялі нацыянальнасць на беларускую. Адну за адной пачалі зачыняць украінскія школы. І цяпер у нас, на Берасцейшчыне, няма ніводнай школы (у 1940-м годзе іх было 58), не маем мы ў Брэсце не толькі ўкраінскіх бібліятэк, а нават

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАСЛЯ ВІЗІТУ

## ФЕРМЫ ЦІ КАЛГАСЫ?

— З такога калгаса наўрад ці хто захоча выйсці, — сказаў С. Шушкевіч у гутарцы з журналістамі пасля таго, як агледзеў свінакомплекс, каўбасны цэх, цяпліцу, фруктасховішча калгаса «Кастрычнік». — Аднак і фермерскія гаспадаркі — у гэтым сёння мы таксама пераканаліся — не лыкам шытыя. У спалучэнні розных форм уласнасці — будучыня нашай вёскі.

Такі быў яго выснаў пасля наведання фермерскіх і калгасных гаспадарак Гродзеншчыны. Пакуль што ў вобласці ўсяго 185 фермераў.

«ЭКСПРЭС-НАДЗЕЯ»

## АД НАРОДА ЗША

Персанальныя пасылкі з прадуктамі разыходзяцца па 125 тысячах адрасоў у гарадах і вёсках Беларусі. Менавіта столькі сем'яў, што жывуць у нястачы, вызначылі ўдзельнікі акцыі «Экспрэс-надзея», якая працягваецца ў нашай рэспубліцы. Як ужо паведамлялася, яе арганізатары — Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША, якое дзейнічае ад імя свайго ўрада, прыватная камерцыйная арганізацыя «Сіці хоуп інтэрнэшнл», заснаваная сям'ёй ужо вядомага ў нашай рэспубліцы сваёй дабрачыннасцю пастара Пола Моара, а таксама аддзелам гуманітарнай дапамогі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Не толькі муку, рыс, сухое малако і алей знаходзяць старыя, інваліды і хворыя ў старанна запакаваных скрынках, але і пісьмо, азагалоўленае «З любоўю ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі».

РАЗЗБРАЕННЕ

## СПАТРЭБІЦЦА СЕМ ГАДОЎ

«Для таго каб поўнасцю пазбавіцца ад стратэгічнай ядзернай зброі, Рэспубліцы Беларусь спатрэбіцца сем гадоў».

Пра гэта заявіў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА народны дэпутат Беларусі, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю Леанід Прывалаў.

«Каб правесці гэтую аперацыю хутчэй, — сказаў ён, — патрэбны велізарныя сродкі, якія, улічваючы эканамічны непарадак, цяжкасці з фарміраваннем бюджэту, стварэннем уласных узброеных сіл, мы не можам сабе дазволіць. Але ўжо ўдакладняюцца пункты выгрузкі, дастаўкі на тэрыторыю Расійскай Федэрацыі, распрацоўваецца сістэма кантролю прадстаўнікамі Беларусі за знішчэннем вывезеных з яе тэрыторыі ядзерных зарадаў. Утрымліваць стратэгічнае наступальнае ядзернае ўзбраенне мы не збіраемся. Пазіцыя рэспублікі па данаму пытанню прынцыповая».

ДАРАЖЭЕ

## ТЭЛЕФОН СТАНОВІЦЦА РАСКОШАЙ

З 16 чэрвеня ў рэспубліцы ў сярэднім утрая павялічыліся тарыфы на паслугі сувязі насельніцтву. Цяпер за ўстаноўку тэлефона нам прыйдзецца плаціць 1800 рублёў, месячная абанементная плата за яго павялічваецца да 30 (а некалі было ўсяго 2), а за радыёкропку — да 3-х рублёў. Напалавіну менш трэба будзе плаціць ветэранам. Згодна з Законам «Аб ветэранах», упершыню ўстанаўліваецца 50-працэнтная скідка для іх. Усё роўна дорага, вядома. І Міністэрства сувязі, добра разумеючы гэта, выказвае насельніцтву сваё спачуванне, але зрабіць інакш не можа. Вырас і працягвае расці кошт энерганосьбітаў і электраэнергіі, транспартных паслуг. Амаль у 20 разоў падскочыла цана камутацыйнага абсталявання, у 25—кабельных вырабаў. АТС на 10 тысяч нумароў, якая каштавала ў 1990 годзе максімум 5, сёння патрабуе ўжо 100 мільёнаў.

Тое ж і з поштай —з-за падаражання транспартных перавозак. У выніку страты галіны толькі ў першым квартале склалі каля 100 мільёнаў рублёў. А да канца года, калі не павышаць цаны на сувязь, яны пагражаюць дасягнуць 2-х мільярдаў. Зразумела, што ва ўмовах, калі страты перавышаюць даходы, галіна існаваць не зможа.

МІЛАСЭРНАСЦЬ



**Сто дзетак з Беларусі прыбылі на аздараўленне і адпачынак у нямецкі горад Гютэрсло. Гэта акцыя — вынік дамоўленасці паміж германскай кампаніяй «НОА ПРОМОУШН» і кіраўніцтвам Рэспублікі Беларусь. Зваротным рэйсам самалёт даставіў у Беларусь 8 тон грузу гуманітарнай дапамогі.**

**НА ЗДЫМКУ: першыя мінуты на зямлі Германіі.**

СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ

## МУС НА СЦЕЖЦЫ БАРАЦЬБЫ

Для папярэджання групавых парушэнняў грамадскага парадку з боку моладзі і падлеткаў за паркамі культуры і адпачынку, дыскатэкамі, клубамі і іншымі пунктамі ў рэспубліцы замацавана каля дзвюх з палавінай тысяч работнікаў міліцыі. Нарады патрульна-паставой службы набліжаны да піянерскіх лагераў, дачных пасёлкаў, прыгарадных зон адпачынку. Значная частка супрацоўнікаў пераведзена на начны рэжым работы, створаны мабільныя групы для правядзення рэйдаў па найбольш крымінагенных пунктах.

У адпаведнасці з сумесным загадам Міністэрстваў унутраных спраў і абароны Рэспублікі Беларусь з 15 ліпеня арганізавана сумеснае патруляванне супрацоўнікаў міліцыі і ваеннаслужачых у вячэрні час 5 разоў у тыдзень у тых гарадах, дзе ёсць гарнізоны. У сувязі з тым, што шмат наракання выклікае стан правапарадку ў паяздах, найбольш крымінагенныя маршруты ўзяты пад суправаджэнне міліцыі. Сярод іх паязды нумар 79 Гродна—Масква, нумар 3 Масква—Мінск і некаторыя іншыя. Для таго, каб хутчэй выявіць абкрадзеныя таварныя вагоны, што ідуць з іншых рэгіёнаў СНД, устаноўлены часовыя заслоны.

Так пачала ажыццяўляцца ўрадавая праграма барацьбы са злачынствам і правапарушэннямі ў Беларусі.

ЛІТОЎСКАЯ ЦІ БЕЛАРУСКАЯ

## НОВАЕ АБ «ПАГОНІ»

Праліць святло на некаторыя са спрэчных пытанняў, відаць, дапамогуць унікальныя дакументы аб гісторыі герба, якія раней захоўваліся ў архівах Літвы.

— Мы ўжо заняліся іх перакладам, — гаворыць начальнік Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў Беларусі Аляксандр Міхальчанка. — Літоўскія калегі прадаставілі нам дакументы аб «Пагоні», сабраныя ў час існавання буржуазнай Літоўскай Рэспублікі, урад якой у свой час звярнуўся да незалежных экспертаў з просьбай адказаць на пытанне, наколькі літоўскі гэты герб. Адказы прыйшлі з многіх краін свету. Сёння пытанне, каму належыць герб — літоўцам або беларусам — не стаіць. Але напісаць гісторыю нацыянальнага герба рэспублікі мы можам толькі разам.

ПРАФЕСІЯ — АРГАНІСТ



**У тым, што ён стане прафесійным музыкантам, Аляксандр Ісанаў не сумняваўся. Спачатку вучыўся ў Мінскай школе мастацтваў на харавым аддзяленні. Але найбольш яму падабаўся арган. І юнак вучыўся іграць на гэтым старадаўнім інструменце ў касцёлах Гродзеншчыны. Сапраўдную ж адукацыю атрымаў ужо ў Вільнюсе. Там жа і застаўся працаваць арганістам у саборы Святой Марыі, а таксама працягвае вучобу ў вопытных музыкантаў.**

**Нядаўна Аляксандр Ісанаў прыязджаў у Мінск. Тут ён выступіў з канцэртам, на які запрасіў былых аднакласнікаў і настаўнікаў.**

**НА ЗДЫМКУ: за арганам — Аляксандр ІСАНАЎ.**

*«Паводзіны Вярхоўнага Савета цяпер, напярэдадні рэферэндуму, нагадваюць дзеянні дрэннай футбольнай каманды, якая вядзе бязадрасную адбойную гульню. Прапануецца прыняць Закон аб прыватызацыі і — не прымаецца. Навошта? Наменклатурная ж «прыхватызацыя» і так ідзе паспяхова. Тады прапануе Апазіцыя Народнага Фронта праект закона аб прыватнай уласнасці на зямлю. Не трэба такога закона, — вырашылі «народныя абраннікі». Затым выносіць БНФ праект закона аб карупцыі. Але не патрэбны гэтым «народным абраннікам» і такі закон. Яшчэ чаго, і так адны непрыемнасці. Тады прапаноўвае Апазіцыя праект рэформы Вярхоўнага Савета. Але і рэфармавацца дэпутаты-наменклатуршчыкі таксама ня хочуць. І рэферэндуму не жадаюць, і рэформаў баяцца, і «языка не хацят». А калі прапанавалі «парламенту» прыняць прысягу на вернасць народу і дзяржаве Беларусь у нававыбранага міністра абароны, «народныя абраннікі» ажно рукамі замахалі — «не нада». Ну і ну, як кажуць, слоў няма. Перафразуючы Купалу — а чаго ж бы захацелася ім, сляпым, глухім? ...Пытанне для псіхолага».*

*Зянон ПАЗЬНЯК,*
*народны дэпутат Беларусі.*

ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ

## МУЗЫЧНЫ СЛОЎНІК

Першы вялікі тлумачальны беларускі музычны слоўнік энцыклапедычнага тыпу рыхтуецца ў Інстытуце гісторыі, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. Выданне мяркуе два варыянты — руска-беларускі і беларуска-рускі з уключэннем этымалогіі іншамоўных слоў і транскрыпцыі. Група музыказнаўцаў і філолагаў, працуючы пад кіраўніцтвам доктара навук Г. Куляшовай, распрацоўвае музычную тэрміналогію на беларускай мове.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Два газаправоды пройдуць паблізу Оршы, Крупак, Мінска да граніцы з Польшчай. Газ, які будзе паступаць па іх, поўнасцю забяспечыць Беларусь палівам. Будаўніцтва іх плануецца спецыяльнай праграмай пастаўкі газу еўрапейскім краінам.

● У Беларусі, дзе маецца больш 30 турмаў, ізалятараў, калоній, адбываюць пакаранне 18 тысяч зняволеных. Колькасць іх у хуткім часе можа павялічыцца яшчэ на 5 тысяч, якіх збіраецца выслаць да нас Расія. Гэта людзі, якія былі асуджаны ў Беларусі, а пакаранне адбываюць у месцах зняволення ў Расіі.

● Брагінскі масласырзавод спыніў вытворчасць каўбасных сыроў. Прычына: няма каму рабіць у цэху — большасць сыravараў выехалі за межы горада, далей ад радыяцыйнай зоны. З-за адсутнасці рабочых не сёння-заўтра перастануць выпускаць прадукцыю іншыя прадпрыемствы Брагіна. Людзі перасяляюцца ў больш бяспечныя месцы.

● Беларускае згуртаванне вайскоўцаў звярнулася да міністра абароны рэспублікі з патрабаваннем забараніць выкарыстанне афіцэрамі салдат тэрміновай службы, а таксама тэхнікі для будаўніцтва асабістых дач, гаражоў, дамоў. Гэтая з'ява шырока распаўсюджана ў былой Савецкай Арміі.

● Пры спробе прадаць замежнаму грамадзяніну каля 30 танкавых прыбораў начнога бачання затрыманы 8 жыхароў Барысава, з іх — трое вайскоўцаў. Аперацыю па захопу на месцы злачынства раскрадальнікаў зброі і ваеннай маёмасці, якіх нямала ў арміі, правялі Камітэт дзяржаўнай бяспекі і ўпраўленне контрразведкі.

● Беларуская чыгунка на мяжы крызісу: рэсурс лакаматыўнага парка выпрацаваны на 70 працэнтаў, а 42 працэнты яго амартызавана поўнасцю. Новай тэхнікі і запасных частак няма. 690 кіламетраў пуцей патрабуюць капітальнага рамонту. Узрастае пагроза бяспекі руху.

## ТАКІ ВЫСОКІ І ТАКІ НІЗКІ КОШТ УЗНАГАРОД

# НІБЫ СВАЁ СУМЛЕННЕ ПРАДАЮЦЬ

...Паміраючы, дзядуля Васіль падарыў свайму ўнуку, майму сябру Канстанціну, пяцірублёвую залатую манету і Георгіеўскі крыж. Большага багацця стары за ўсё доўгае жыццё не набыў.

Крыж ён атрымаў на мікалаеўскай вайне. Расказвалі людзі, якія некалі служылі з ім, што салдат царскай арміі Васіль Гнілякевіч на той вайне пад агнём ворага змог выцягнуць з балота гармату. За гэты подзвіг і атрымаў крыж. Але на людзях тую дарагую ўзнагароду стары не насіў: можа баяўся, каб «георгій» не згубіўся, а можа таму, што было і небяспечна, бо ў сталінскія часы за такую смеласць людзі траплялі нават у спіс рэпрэсіраваных.

...Сын Васіля Іван вярнуўся з Вялікай Айчыннай з сямю медалямі і ордэнамі. І таксама ўзнагароды насіць не стаў: адразу ж аддаў Канстанціну.

Малы паказваў іх сябрам, хваліўся, што яго татка «ажно тысячу фашыстаў забіў». І за гэта яму далі столькі ордэнаў і медалёў. На самай жа справе Іван Гнілякевіч нікога не забіў. Больш таго, за ўсю вайну не зрабіў ніводнага выстралу, служыў каптэнармусам, забеспячэнцам. Але з чыёйсьці лёгкай рукі яго шторaз уключалі ў спіс узнагароджаных.

— Было сорамна атрымліваць медалі, — казаў нам, калі падраслі, дзядзька Іван. — Даў слова ніколі іх не надзяваць.

І гэта слова стрымаў. Жыў сціпла. Не лічыў сябе, як кажуць, стопрацэнтным франтавіком. Калі тыя збіраліся на дзень Перамогі ці іншыя святы, не прыходзіў, адмовіўся ад ільгот удзельнікам вайны.

На жаль, гэты выпадак не адзінкавы. Часам нават самыя высокія ўзнагароды траплялі яўна не па адрасу.

Неяк прыйшлося пісаць пра франтавіка Пятра Міхаленку, які працаваў у Акадэміі навук. Ён расказаў пра аднаго штабіста, капітана. Той таксама за ўсю вайну не зрабіў ніводнага стрэлу. Пры першай жа небяспецы паперадзе ўсіх бег хавацца ў бліндаж ці бомбасховішча. Аднак змог «заслужыць» з дзесятак ордэнаў і медалёў. Больш таго, займеў пасведчанне на прысваенне яму звання... Героя Савецкага Саюза.

Другі прыклад. (Аб ім расказаў партызан брыгады імя Свярдлова Міхаіл Бязмен). Пры камандзіры аднаго з партызанскіх атрадаў была маладая жанчына. Яна чысціла бульбу, калі рыхтавалася ежа кіраўніку народных мсціўцаў. Аднаго разу прыйшла разнарадка (і такое было!) на ўзнагароджанне «асоба вызначыўшыхся ў баях з фашысцкімі захопнікамі» партызан. У гэты спіс трапіла і маладая жанчына. Ёй далі ордэн Баявога Чырвонага Сцяга. У той жа час падрыўнік, які пусціў пад адхон варожы цягнік, атрымаў толькі... падзяку камандавання.

— Ніколі не магу пагадзіцца, ды і не толькі я, і з пастановамі былога ўрада Саюза ССР аб «пагалоўным» узнагароджанні ветэранаў вайны, скажам, ордэнам Вялікай Айчыннай вайны. Узнагарода вельмі высокая, і ёю трэба даражыць, узнагароджваць па канкрэтных заслугах. Якая тут справядлівасць, калі ордэн атрымлівае і той, хто рызыкаваў кожны дзень сваім жыццём, знаходзячыся ў самым пекле баёў, і той, хто стаяў у запасе ў далёкім тыле.

Заўвага слушная. Хаця нельга адмаўляць і таго факта, што ў большасці сваёй многія франтавікі маюць высокія ўзнагароды па заслугах.

Назаву некалькі прозвішчаў сваіх землякоў, што жылі ці жывуць на Навагрудчыне. Гэта браты Салабуціны, бацька і сын Вайтовічы, партызаны Лeвановіч, Дударэвіч... На іх грудзях было шмат ордэнаў і медалёў. І кожны атрыманы за сапраўды геройскі ўчынак у гады вайны. Браты Салабуціны, напрыклад, наводзілі жах на фашысцкіх лётчыкаў-асаў, а адно прозвішча Вайтовічаў пранізвала страхам кожнага паліцая, які служыў на немцаў у Любчанскім раёне.

Часам я бываю на святах ветэранаў. Аднаго разу заўважыў, што не-не ды і не бачна ўзнагарод на іх пінжаках. Пацікавіўся: у чым справа? Шкада новага касцюма?..

Аказалася, справа ў іншым. Ехаць па месцах былых баёў з рэгаліямі на грудзях стала небяспечна. Бо здараліся выпадкі, калі ветэранаў рабавалі. Забіралі не кашалькі, а менавіта медалі і ордэны. У адным выпадку маладыя, дужыя хлопцы зрывалі рэгаліі проста з грудзей франтавіка, у другім — маглі дэталёва разведаць, дзе той пражывае, каб потым залезці ў дом і ўкрасці. Гэта называецца — абрабаваць інтэлігентна.

Вось так інтэлігентна абрабаваў былога франтавіка Мікалая Сцяпанавіча (ён прасіў не називаць яго прозвішча) пляменнік Віктар з Мінска. Прыехаў «сваячок» да дзядзькі ў госці і прыхапіў шэсць найменняў рэгалій.

— Я яму на дарогу і сала, і яек, і каўбас даў, а ён так паступіў, — з горыччу казаў мне былы франтавік. — Ніколі не падумаў бы, што гэта яго работа. Людзі толькі падказалі, што Віктар прадае медалі ў Мінску Я—да яго. Пытаюся, ці мае былі ўзнагароды. Ён і адпірацца не стаў: твае. Яшчэ ўхмыляецца. Кажа, я за твае ўзнагароды машыну купіў, прапаноўвае паехаць пакатацца. Мне ж адразу кепска стала, доктара выклікалі.

Для пляменніка медаль ці ордэн — сродак нажывы. Для Мікалая Сцяпанавіча — боль сэрца, а яшчэ і фізічны боль. Пад Масквой у моцны мароз яму ампутавалі пальцы на левай назе. Пад Каўнасам варожы асколак прабіў чэрап... І такі цяжкі напамінак нібы напісаны на кожнай узнагародзе. Таму і дарагія яны ветэрану. Былі. Цяпер не вернеш. Бо такія, як пляменнік, не дараслі яшчэ да поўнага разумення таго, што зрабілі.

Палохае: не дарастуць ніколі. Бацькоўская ўзнагарода для многіх з'яўляецца не больш, чым «бляшкай», за якую можна атрымаць вялікія грошы. Колькі за што? Баюся памыліцца. Скажам, ордэн Славы III ступені яшчэ ўчора каштаваў 22 тысячы рублёў, сёння, я ўпэўнены, за яго папросяць і болей. У Беларусі, як і ў іншых рэспубліках былога СССР, вось ужо некалькі гадоў запар ідзе гандаль баявымі і працоўнымі ўзнагародамі.

Будзем справядлівымі: прадаюць, купляюць не толькі маладыя людзі, якія ніколі не нюхалі пораху. Ці нават тыя, каго ўзнагародзілі «па спіску», не за нейкі там подзвіг.

...У рэкламным дадатку некалькі аб'яў: «Прадаю медалі». Набіраю першы выпадковы нумар тэлефона, дамаўляюся аб сустрэчы. Праз паўгадзіны заходжу ў дом на вуліцы Каліноўскага. З цяжкасцю абапіраючыся на палачку, гаспадар кватэры садзіцца на металічны ложак, запрашае прысесці на табурэтку. Гэта табурэтка ды яшчэ нешта накшталт тумбачкі-стала — вось і ўся мэбля ў аднапакаёвай кватэры.

Крыху адсопшыся, гаспадар дастае з-пад падушкі пачак з-пад запалак, кладзе на дрыжачую далонь ужо абшарпаны ордэн Чырвонай Зоркі. Ніяк не рашаецца перадаць мне яго ў рукі. Глытаючы камяк у горле, дрыготкім голасам сказаў:

— Сем... не — пяць тысяч прашу, — раптам усхліпвае і працягвае: — Быццам сваё сумленне прадаю.

Потым, так і не даўшы мне ў рукі ордэн, хавае яго назад у пачак, пачынае расказваць.

— Я, украінец Гарноська і яшчэ адзін беларус з-пад Гомеля Чугло — экіпаж «трыццацьчацвёркі». Пад Каўнасам трапілі ў пераплёт. Камандзір загадвае нашаму экіпажу знішчыць процітанкавую гармату. Але нас падбілі. У жывых застаўся я адзін, а Гарноська і Чугло згарэлі ў танку. Так што, лічыце, адзін ордэн на траіх. Але парайце, што мне рабіць?..

І тут ветэран расказаў пра сваё жыццё. Пакуль жыла жонка, пакуль сам працаваў, было няблага. Але не стала жонкі, пачало падводзіць здароўе, давялося звольніцца з работы. Ад нажытага толькі і засталіся тыя рэчы, аб якіх я ўспамінаў вышэй. Як жыць? Дзе ўзяць сродкі на існаванне?.. Пытанне балючае не толькі для Сямёна Валянцінавіча (так ён сябе назваў). Вось і рашыўся, як ён казаў, на апошнюю меру. Не, хочацца верыць, што сумленне ўсё ж узяло верх, не здрадзіў яму ветэран. На развітанне ён так і сказаў: «Мінутная слабасць мінула. Ніколі не дарую сабе тую аб'яву. Не прадам я гэты ордэн. Ён належыць не толькі мне, але і маім баявым сябрам. Яны хоць і мёртвыя, але не даруюць мне».

...Не так даўно праходзіў каля музея Вялікай Айчыннай вайны. Перад уваходам сядзеў сталых гадоў мужчына і гандляваў баявымі ўзнагародамі. (Ці не кашчунства гэта!) Прасіў ужо не рублі, а валюту. Угаворваў купіць «для ўнукаў, бо хутка ў рэспубліцы не застанецца ніводнага медаля і ордэна. І на гэтым можна зрабіць добры бізнес літаральна праз год-два».

На жаль, гэта праўда. Хоць і горкая, але праўда. Медалі і ордэны ў хуткім часе стануць антыкварнай рэдкасцю. Як сталі рэдкасцю юбілейныя манеты, многія маркі, выпушчаныя ў былым СССР.

Маркі, манеты... Яны прадаваліся і купляліся заўсёды. Але як можна прадаць сямейную рэліквію — ордэн, медаль, як можна не ганарыцца тым выдатным, што зроблена нашымі продкамі! Тым, што стаіць вышэй і савецкага рубля, і амерыканскага долара.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

# «ЗАБЫТАЕ ПЛЕМЯ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

украінскіх аддзелаў у існуючых бібліятэках, не вядзецца трансляцыя ўкраінскіх праграм па тэлебачанні і г. д. Таму, стварыўшы два гады назад сваё аб'яднанне, мы і паставілі сабе за мэту: захаваць этнічную ідэнтычнасць палескіх украінцаў, забяспечыць ім роўныя правы з беларусамі, асабліва ў галіне асветы, культуры, дапамагчы рэалізаваць права на сваю родную мову і нацыянальную прыналежнасць.

Інтэрв'ю ўзяла Ніна БАЙ.

Кіеў — Брэст — Кіеў.

*P.S. Брэсцкі суд, які адбыўся ў студзені, так, на жаль, і не адмяніў неправамернага рашэння аблвыканкома адносна рэгістрацыі статута культурнага таварыства. Дарэчы, пра гэтыя ж праблемы М. Казлоўскі гаварыў на Кангрэсе ўкраінцаў у Кіеве, дзе былі таксама і дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі. Магчыма, гэта і паскорыла станоўчае вырашэнне пытання. Статут Украінскага грамадска-культурнага аб'яднання Берасцейскай вобласці зарэгістраваны 24 лютага 1992 года.*

*(«Вісті в Украї'ны»).*

**Ад рэдакцыі:** Перадрукоўваючы гэты матэрыял з украінскай газеты «Вісті з Украіны», што таксама, як і «Голас Радзімы», выдаецца ў першую чаргу для суайчыннікаў за межамі Радзімы, ставім толькі адну мэту: інфармаваць нашых чытачоў пра тое, што адбываецца ў Беларусі, да чаго дажылі народы той краіны, якая некалі называлася СССР. А ўжо паміж украінцамі і беларусамі была эталонная дружба!

Не станем паглыбляцца ў канфлікт паміж УГКА БВ і адміністрацыйнымі ўладамі вобласці, але думаем: штосьці іх штурхнула на гэты крок. Урэшце канфлікт уладжаны, і статут таварыства зарэгістраваны. Паводле яго, УГКА ставіць мэтай «актыўна падтрымліваць дэмакратыю нашага грамадства, дабівацца гарманізацыі ў міжнацыянальных адносінах» і г. д. Звычайны набор трафарэтных фраз, неабходных для статута.

Але як можна «гарманізаваць» міжнацыянальныя адносіны, калі беларусаў адносіць да «асімілятараў», «паноў-чужынцаў»?! Калі беларусам прыпісваць палітыку «гвалтоўнай асіміляцыі» ўкраінцаў?! Беларусам, якія самі амаль цалкам зрусіфікаваны.

Вядома, можна рабіць экскурсы ў гісторыю аж да часоў Галіцка-Валынскага княства і сцвярджаць, што Брэстчына — гэта забыты куток Украіны. А некаторыя на Палессі сягаюць яшчэ далей у глыбіню стагоддзяў, калі на тых абшарах было мора Герадота. І сцвярджаюць, што тут была Грэцыя, а палешукі — нашчадкі старажытных элінаў.

Далёка можна зайсці ў такіх разважаннях. Асабліва, калі яны падаграваюцца братамі-украінцамі з Валыні і Львова, дзе друкуюцца і адкуль засылаюцца на Беларусь розныя антыбеларускія выданні.

Збегам акалічнасцей здарылася так, што пакуль «Забытае племя» дачакалася публікацыі, у рэдакцыю прыйшоў дакумент, які мае непасрэднае дачыненне да закранутай тэмы. Гэта «Заява праўлення грамадска-культурнага аб'яднання «Палісьсе» па Заходняму Палессю». Не будзем яе пераказваць, а падаём цалкам, не навязваючы сваіх каментарыяў.

«На працягу апошніх дзесяці гадоў, — гаворыцца ў заяве, — спачатку па віне нацыянальна-нігілістычнага партнаменклатурнага кіраўніцтва рэспублікі, а ў цяперашні час пад уплывам беларускіх нацыянал-радыкальных сіл у асобе, перш за ўсё, лідэраў Сацыял-дэмакратычнай Грамады, БНФ і кіраўніцтва Камісіі Вярхоўнага Савета РБ па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны вядзецца ўпартае і неразумнае супрацьдзеянне натуральнаму працэсу заходнепалескага нацыянальнага і культурна-моўнага адраджэння.

Такое супрацьдзеянне прывяло да заканамерных негатыўных вынікаў: на Заходнім Палессі (Брэсцка-Пінскі рэгіён) РБ спеюць і аб'ядноўваюцца палітычныя сілы, якія арыентаваны як на заходнепалескі сепаратызм, так і на далучэнне тэрыторыі Заходняга Палесся да Украіны.

Супрацьдзеянне сепаратысцкай і праўкраінскай тэндэнцыям на Заходнім Палессі магчымае і разумнае толькі ў выглядзе ўліку нацыянальных і культурнамоўных інтарэсаў заходніх палешукоў, забеспячэння іх задаволенасці на дзяржаўным узроўні, г. зн., шляхам заканадаўчага прызнання факта існавання заходнепалескага этнасу з яго асобымі інтарэсамі, дзяржаўнага забеспячэння захавання і развіцця заходнепалескай культуры, традыцый і мовы.

Праўленне Грамадска-культурнага згуртавання «Палісьсе», адхіляючы праўкраінскую і не прымаючы сепаратысцкай тэндэнцыі ў вырашэнні нацыянальнага пытання, адстойваючы прынцып нацыянальна-культурнай аўтаноміі для Заходняга Палесся, заклікае ўсе грамадскія і палітычныя сілы, усіх палітычных лідэраў і дзяржаўных асоб Рэспублікі Беларусь, для якіх блізкія ідэі нацыянальнага пагаднення, якія жадаюць бачыць Беларусь цэласнай і непадзельнай, праводзіць у пытанні Заходняга Палесся рэальную і дэмакратычную палітыку, якая ўлічвае інтарэсы заходніх палешукоў і, перш за ўсё, іх права — самастойна вызначаць свой нацыянальны і культурнамоўны лёс».

Ці не здаецца вам, што на Палессі нешта спее? Як бы не адмахваліся ад паляшуцка-украінскай праблемы, некаторыя нашы палітыкі, але яна ёсць.

## НЕ ПРОЙДЗЕ НІХТО

Група парушальнікаў з 16 чалавек затрымана на адной з застаў Брэсцкага пагранатрада. Парушальнікі — жыхары далёкага ад Беларусі Пакістана.. Яшчэ ў красавіку ў іх закончылася віза на ўезд у Расію, але да сябе дадому яны вяртацца не спяшаліся. Шукалі сувязі, каб нелегальна перайсці граніцу ў раёне Брэста і праз Польшчу дабрацца да Германіі. Там планавалі зарабіць грошай. Праваднікам, што ўзяліся дапамагчы пераадолець пагранічны заслон, было выплачана 12 тысяч долараў, на працягу трох дзён пільна вывучаліся маршруты.

Падобнае здарэнне адбылося і на адной з застаў каля Гродна. Там таксама затрыманы грамадзяне Пакістана. Іх было 6, яны даўно выношвалі думку нелегальна перабрацца ў Польшчу. Будучы ў Маскве, атрымалі там фіктыўныя польскія выклікі, запасліся прадуктамі харчавання, грашыма. Крыху пачакаўшы, перабраліся ў Гродна. Употай наведваліся да дзяржаўнай граніцы, уважліва вывучалі змены пагранічных нарадаў, сігналізацыю. Але перайсці граніцу ні тым, ні другім не ўдалося.

# ТАК БЫЛО, ТАК ПАВІННА БЫЦЬ

**(БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАННЕ Ў ВІЛЕНСКІМ ПОЛЬСКІМ ПАНСКА-КЛЕРЫКАЛЬНЫМ ДРУКУ 1905—1907 ГАДОЎ)**

Рэвалюцыя 1905—1907 гадоў для нацыянальнага руху народаў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі і Літвы, з'явілася пераломнай падзеяй. Пасля частковай адмены з пачатку рэвалюцыі нацыянальных абмежаванняў узмацніўся працэс фарміравання нацый, які пачаўся яшчэ ў XIX стагоддзі. Гэтым працэсам было ахоплена і польскае, і беларускае насельніцтва краю. Аднак беларускі і польскі нацыянальны рухі знаходзіліся на розных узроўнях развіцця. Беларускі рух павінен быў вырашаць яшчэ многія задачы нацыянальна-культурнага развіцця. Польскі рух у краі абапіраўся на даволі моцныя культурныя пазіцыі і ў легальным друку патрабаваў поўнай адмены ўсіх нацыянальных абмежаванняў. Розным быў і ўзровень нацыянальнай самасвядомасці ў беларусаў і палякаў. Беларуская нацыя складвалася як сялянская, а ў польскім нацыянальным руху ў краі вядучую ролю ігралі землеўладальнікі, якія складалі большасць памешчыкаў Беларусі і Літвы. Як правіла, гэта былі нашчадкі паланізаванай ў XVII—XVIII стагоддзях беларускай шляхты.

Ва ўмовах цеснага культурнага, эканамічнага, палітычнага і рэлігійнага ўзаемадзеяння польскі і беларускі нацыянальныя рухі не маглі існаваць ізалявана. Гэты артыкул з'яўляецца спробай прааналізаваць адносіны прадстаўнікоў польскага руху да беларускага. Аналіз заснаваны на публікацыях віленскага польскага друку 1905—1907 гадоў. Як гістарычная крыніца гэты друк савецкімі гісторыкамі не даследаваўся. Гісторыкі Польшчы не разглядалі яго ў якасці крыніцы па гісторыі нацыянальных адносін. Але яго вывучэнне дазваляе па-новаму глянуць на многія праблемы гісторыі Беларусі і Літвы.

У часы рэвалюцыі ў Вільні выходзіла 30 польскіх і польскамоўных перыядычных і аднадзённых выданняў.

Да масавых легальных выданняў, вывучэнне якіх дазваляе аналізаваць пазіцыі розных колаў польскага грамадства Беларусі і Літвы, адносяцца «Кур'ер літэвскі» (1.09.1905 г.—10.08.1915 г.), «Навіны Віленьскія» (4.01—20.02.1906 г.), «Газета Віленьска» (15.02 — 27.07.1906 г.), «Дзённік Віленьскі» (8.08.1906—1914 г.). Нацыянальныя адносіны шырока асвятляліся «Кур'ерам літэвскім» і «Дзённікам Віленьскім», «Газета Віленьска» асаблівай цікавасці да гэтай тэмы не праяўляла, а «Навіны Віленьскіе» ў якасці самастойнай наогул яе не ставілі.

Адраджэнне польскага друку ў Вільні пачалося 1 верасня 1905 года. У гэты дзень выйшаў першы нумар «Кур'ера літэвскага». Гэтае выданне прадоўжыла даўнія традыцыі. Газета з такой назвай упершыню з'явілася ў Вільні ў 1759 годзе. Выдавалі яе езуіты. З тых часоў выданне неаднаразова перарывалася. У апошні раз гэта здарылася ў 1863 годзе. Паражэнне паўстання паставіла польскае насельніцтва краю ў досыць складаныя палітычныя, эканамічныя і культурныя ўмовы. У ліку многіх мер русіфікацыйнай палітыкі быў забаронены польскі друк.

Рэдактарам новага «Кур'ера літэвскага» быў І. Астраруг-Садоўскі, выдаўцом — Іпаліт Корвін-Мілеўскі. Калі першы з іх быў досыць выпадковай фігурай (былы варшаўскі адвакат, які не меў журналісцкага вопыту), то пра выдаўца, які адначасова з'яўляўся ўладальнікам газеты, трэба сказаць асобна. Гэта адзін з найбольш прыкметных дзеячаў польскага нацыянальнага руху ў краі. Пасля заканчэння Парыжскага універсітэта ён пасяліўся ў сваім радавым маёнтку Лаздуны Ашмянскага павета Віленскай губерні. За кароткі час І. Корвін-Мілеўскі зрабіў сваю гаспадарку ўзорнай. Ён часта выступаў у друку на палітычныя і эканамічныя тэмы. У У 1905 годзе ў Вільні выдаецца яго кніга «Унутраны крызіс у Расіі і народнае прадстаўніцтва». Як публіцыст 1. Корвін-Мілеўскі адрозніваўся самастойнасцю і дыялектычнасцю мыслення, глыбокім валоданнем надзённымі праблемамі краю. Увесну 1906 года ён быў абраны членам Дзяржаўнай Рады ад Віленскай губерні. У радзе І. Корвін-Мілеўскі ўвайшоў у так званы «Цэнтр» і працаваў вельмі энергічна. Менавіта яго актыўнасць і падтрымка членаў Дзяржаўнай Рады ад літоўска-беларускіх губерняў прадухілілі ўвядзенне ў Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губернях бюракратычнага русіфікацыйнага земства, распрацаванага членамі ўрада П. А. Сталыпіна. У «Кур'еры літэвскім» І. Корвін-Мілеўскі не абмяжоўваўся роляй выдаўца. Ён часта выступаў на яго старонках як публіцыст, і, здаецца, менавіта гэтым чалавекам быў вызначаны палітычны твар газеты на ўвесь час рэвалюцыі. Практычна адзіным прафесійным журналістам, які нёс на сабе ўвесь цяжар рэдакцыйнай працы, з'яўляўся Ян Замараеў, вядомы ў краі пад псеўданімам «Е. Урсын». За яго плячамі быў дваццацігадовы журналісцкі вопыт. Ён працаваў у часопісах Варшавы, Кіева, Харбіна (Кітай). У Вільні Ян Замараеў апынуўся дзякуючы запрашэнню выдаўца. У перыяд рэвалюцыі кіраўніцтва газеты і склад яе рэдакцыі двойчы змяніліся. Першага снежня 1905 года рэдактарам стаў вядомы паэт і публіцыст Ч. Янкоўскі (1857—1929). Яго з'яўленне было звязана з тым, што І. Корвін-Мілеўскі, які не меў вопыту рэдакцыйна-выдавецкай дзейнасці, сутыкнуўся з вялікімі фінансавымі праблемамі і прадаў «Кур'ер літэвскі» ўладальніку буйнейшай друкарні ў Вільні Ф. Завацкаму. Новы ўладальнік адразу запрасіў на пасаду рэдактара Ч. Янкоўскага.

Ч. Янкоўскі — гэта асоба, якая пакінула значны след у польскім руху часу рэвалюцыі на Беларусі і Літве. Ён таксама быў землеўладальнікам і валодаў маёнткам у Ашмянскім павеце. Янкоўскі ўвесну 1906 года, быў абраны дэпутатам І Дзяржаўнай думы. 2 красавіка 1907 года ў выніку канфлікту з уладальнікам газеты, якім з канца лютага 1906 года быў віленскі епіскап Э. Роп, ён пакінуў пасаду рэдактара, і яе заняў былы сакратар рэдакцыі В. Бараноўскі. Нягледзячы на гэтыя змены, палітычны напрамак «Кур'ера літэвскага» ў перыяд рэвалюцыі застаўся нязменным. Ён адлюстроўваў погляды тых польскіх землеўладальнікаў, якія лічылі Беларусь і Літву сваёй радзімай і адстойвалі неабходнасць уласнай (краявой) эканамічнай і палітычнай лініі, якая не супадала ні з праграмай агульнарасійскіх партый, ні партый нацыянальных дэмакратаў у Польшчы. Апошнім тлумачыцца рэзкая палеміка «Кур'ера літэвскага» з «Дзённікам Віленьскім», які якраз выказваў погляды «эндэцыі» на Беларусі і Літве.

Другім па значэнню польскім перыядычным выданнем у краі з'яўляўся «Дзённік Віленьскі». Ён выходзіў рэгулярна з 1 верасня 1906 года. У адрозненне ад «Кур'ера літэвскага», які імкнуўся аб'яднаць вакол сябе ўсё польскае грамадства краю і таму даваў магчымасць разнастайным палітычным сілам выступіць на сваіх старонках, «Дзённік Віленьскі» адразу заявіў, што з'яўляецца органам партыі нацыянальных дэмакратаў на Беларусі і Літве. Гэтая партыя ў часы рэвалюцыі была галоўнай палітычнай сілай у Польшчы. Яе тэарэтыкамі і кіраўнікамі з'яўляліся Ю. Паплаўскі, З. Баліцкі і Р. Дмоўскі. Партыя нацыянальных дэмакратаў узнікла яшчэ ў канцы XIX стагоддзя. Сваёй галоўнай мэтай яна лічыла дасягненне нацыянальнай незалежнасці Польшчы. Праграма партыі мела выразную нацыяналістычную афарбоўку. У перыяд рэвалюцыі члены ПНД упэўнена перамаглі на выбарах і ў І і ІІ Дзяржаўныя думы ў Польшчы і імкнуліся пашырыць свой уплыў на беларускія, літоўскія і ўкраінскія землі. У гэты перыяд ПНД часова адмовілася ад патрабаванняў незалежнасці Польшчы і дамагалася толькі нацыянальнай аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі.

Першым рэдактарам «Дзённіка Віленьскага» стаў А. Карповіч. Вельмі хутка яго змяніў Ян Замараеў, адзін з заснавальнікаў «Кур'ера літэвскага». Але і ён быў нядоўга на чале «Дзённіка».

Пасля яго ад'езду ў Варшаву рэдактарам газеты стаў Ю. Хлашко, які ў час рэвалюцыі і пасля яе з'яўляўся адным з найбольш актыўных дзеячаў ПНД на Беларусі і Літве. З расійскім царызмам у яго былі асабістыя разлікі. У пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя па абвінавачванню ў антыўрадавай дзейнасці ён быў сасланы ў Сібір, потым працаваў рэдактарам у Варшаве і Львове. І Хлашко і яго папярэднікі настойліва прапагандавалі праграмныя прынцыпы ПНД і імкнуліся пераканаць польскіх чытачоў, што для паляка, дзе б ён ні жыў, нацыянальныя інтарэсы павінны быць вышэй за ўсё.

Трэба адразу адзначыць, што на старонках краявога польскага друку польска-беларускія нацыянальныя адносіны не займалі значнага месца. Беларускі нацыянальны рух толькі пракладваў сабе шлях у культурным, палітычным, рэлігійным жыцці краю. Прадстаўнікі польскага нацыянальнага руху доўгі час не праяўлялі да яго значнай увагі.

У 1905 годзе «Кур'ер літэвскі» толькі аднойчы закрануў тэму, якая была звязана з беларускім нацыянальным рухам. А. Багдановіч у артыкуле «Аб беларускай мове» высмейваў і беларускую мову, і людзей, якія думалі аб яе развіцці. Мэтай артыкула, у якім аўтар пісаў, што беларуская мова — «гэта мова цемры і невуцтва, набор скажоных польскіх і рускіх слоў», з'яўлялася крытыка патрабаванняў аб увядзенні набажэнства ў касцёлах на беларускай мове. А. Багдановіч у канцы артыкула рабіў наступны вывад: «Духавенства павінна несці слова божае толькі на польскай мове. Людзі звыкліся з ёю і ніякіх перамен не хочуць. Усялякія перамены могуць прывесці да адыходу людзей ад касцёла».

Так ужо ў 1905 годзе публіцыстыка выявіла адну з важных праблем польска-беларускіх адносін — праблему мовы набажэнства. Каталіцкі касцёл на Беларусі і Літве са сваёй польскай мовай многімі дзеячамі польскага нацыянальнага руху ўспрымаўся як аснова польскай культуры ў краі. Яны быццам не бачылі яго паланізацыйнай ролі ў адносінах да літоўскага і беларускага народаў.

У 1906 годзе колькасць публікацый на беларускую тэму ўзрастае. У «Курьеры літэвскім» з артыкулам «Вецер у твар» выступіў сам рэдактар Ч. Янкоўскі. І тут галоўная мэта — крытыка прапаноў аб увядзенні беларускай мовы ў касцельнае набажэнства, у навучанне дзяцей каталіцкай рэлігіі. Аўтар сцвярджаў, што ўвесь так званы «беларускі рух» інспіраваны адміністрацыяй, каб падарваць польскія пазіцыі на Беларусі і Літве. Самі ж беларускія сяляне, па меркаванню Ч. Янкоўскага, не жадаюць чуць у касцёле сваю «простую» мову. «Моляцца па-польску, слухаюць слова Божае па-польску. Так было ў часы Ягайлы, так павінна быць і цяпер».

Польскія публіцысты вельмі часта ў сваіх меркаваннях выкарыстоўвалі тэзіс аб адсутнасці нацыянальнай самасвядомасці ў значнай часткі беларускага сялянства. Аднак у гэты перыяд нацыянальная свядомасць была на нізкім узроўні і ў польскіх, і ў літоўскіх сялян. Нават польскі друк адзначыў, што не толькі беларускія, але і польскія сяляне на Беларусі і ў Літве называлі сябе «каталікамі» ці «тутэйшымі».

Для многіх сялян, не атрымаўшых нават пачатковай адукацыі, прыціснутых цяжкай фізічнай працай, межы наваколльнага свету праходзілі па межах павета. Не нізкі ўзровень нацыянальнай свядомасці ў сялянства з'яўляўся праблемай беларускага нацыянальнага руху, а адсутнасць шырокага слоя нацыянальнай інтэлігенцыі.

Трэба адзначыць і факт недакладнай распрацаванасці ў той час паняцця «нацыянальнае». Гэта, безумоўна, паўплывала на выніку перапісу 1897 года. Першы ўсеагульны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі ўжо выдзяляў сярод «рускай народнасці» насельніцтва, якое размаўляла па-беларуску і па-ўкраінску. Само па сабе гэта ўжо з'яўлялася поступам і давала магчымасць карыстацца колькаснымі данымі па беларускіх, украінскіх, іншых нацыянальнасцях краю. Аднак ці можна лічыць мову галоўнай прыкметай нацыянальнасці, ці прыкметай «народнасці», як у перапісе? Усё ж галоўным крытэрыем была і застаецца самасвядомасць чалавека.

Польскія публіцысты звярталі ўвагу на гэтую недакладнасць, але, калі рабілі аналіз вынікаў перапісу, зноў паўтаралі яе. Яны часта звярталіся да матэрыялаў перапісу з мэтай іх крытычнага перагляду. К. Недзялкоўскі ў артыкуле «Насельніцтва Віленскай губерні» («Кур'ер літэвскі», 1906, № 6) карэкціруе афіцыйную статыстыку. Ён прыводзіць узятыя з перапісу прыблізныя лічбы па насельніцтву Віленскай губерні: беларусаў — 56 працэнтаў, літоўцаў — 17,5 працэнта, яўрэяў — 12,7 працэнта, палякаў — 8,2 працэнта, рускіх — 5 працэнтаў і сцвярджае, што гэтыя лічбы не адпавядаюць рэчаіснасці. Па меркаванню К. Недзялкоўскага, перапісчыкі завысілі колькасць руска- і беларускамоўнага насельніцтва, таму што аднеслі да яго ўсіх сялян нелітоўцаў. Але многія з іх лічаць роднай мовай польскую і павінны быць аднесены да палякаў, сцвярджала газета.

У артыкуле «Колькі нас» («Кур'ер літэвскі», 1906, № 46) К. Недзялкоўскі больш падрабязна тлумачыць сваю пазіцыю: перапіс праходзіў у часы росквіту палітыкі «абрусення», польская мова была забаронена, прадстаўнікоў грамадскасці да ўдзелу ў перапісе не дапусцілі. Аўтар прапанаваў іншыя лічбы: беларусаў — 48 працэнтаў, літоўцаў і палякаў — 17,5 працэнта, яўрэяў — 12,7 працэнта, рускіх — 3,8 працэнта. Такім чынам, па падліках К. Недзялкоўскага, колькасць беларусаў зменшылася на 8 працэнтаў, рускіх — на 1,2 працэнта.

На жаль, аўтар нідзе не ўказвае, якімі навуковымі падставамі ён пры гэтым кіраваўся. А гэта дае права разглядаць іх як фальсіфікацыю.

З афіцыйнымі данымі па веравызнанню К. Недзялкоўскі цалкам згодны: каталікі — 58,8 працэнта, праваслаўныя — 27,6 працэнта, іудзеі — 12,9.

Такім чынам, аўтар падводзіць чытача да вываду, што Віленская губерня — гэта губерня славянская і каталіцкая. Апошняе, на думку К. Недзялкоўскага, азначае, што яна знаходзіцца пад культурным уплывам Заходняй Еўропы. «З двух каталіцкіх народаў краю (палякаў і літоўцаў. — **А. С.**) палякі маюць большыя шансы данесці заходнюю культурную цывілізацыю да асноўнай масы насельніцтва».

Фальсіфікаваныя даныя статыстыкі ў спалучэнні з упэўненасцю, што ў беларусаў няма і не будзе ніякай самастойнай культуры, дазволілі К. Недзялкоўскаму фактычна зрабіць вывад аб неабходнасці паланізацыі карэннага насельніцтва краю.

Польскія публіцысты не бачылі амаль што ніякіх перспектыў для развіцця беларускай культуры. Самае значнае, на што маглі разлічваць беларусы, на думку Л. Васілеўскага, дык гэта на ўзнікненне папулярнай беларускай літаратуры і на тое, што беларуская мова стане мовай навучання ў народных вучылішчах. Дарэчы, Л. Васілеўскі адзін з нямногіх польскіх публіцыстаў, які прызнаваў існаванне беларускага этнасу. З 1895 года ён з'яўляўся членам ППС, рэдагаваў «Пшэдсвіт», а з 1907 года — нелегальны часопіс «Работнік». Ён лічыўся адным з найлепшых даследчыкаў па нацыянальных пытаннях. У Польшчы 20-х гадоў Л. Васілеўскі кіраваў Інстытутам вывучэння нацыянальных адносін. Асабліва яго цікавілі нацыянальныя адносіны на Беларусі і Літве. У 1907 годзе ён выдаў у Варшаве кнігу «Літва і яе народы», праз пяць гадоў — «Літва і Беларусь». Аднак гэтая постаць стаіць неяк асобна сярод іншых польскіх грамадска-палітычных дзеячаў.

Рэдактар «Кур'ера літэвскага» Янкоўскі ў першай палове 1906 года актыўна выступае па «беларускаму пытанню». У артыкулах «Польскія інтрыгі», «Беларускі буквар» ён сцвярджаў: «...у беларусаў не можа быць уласнай культуры таму, што ў іх адсутнічаюць культурныя традыцыі. З месяца культура для беларусаў не зваліцца...»

**А. СМАЛЯНЧУК.**

(Заканчэнне будзе).

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# ЧЫРВОНЫ ФАШЫЗМ НЕ МОГ ДАЦЬ НАМ ВЫЗВАЛЕННЯ

Вельмі здзівіўся, калі прачытаў вялікі палемічны артыкул А. Ільяшука «Гэта было вызваленне». І навошта было для рэдакцыі «Голасу Радзімы» марнаваць столькі паперы і псаваць для добрых людзей настрой гэтым паскудствам — бальшавіцкім пасквілем, прапагандай і маной? А. Ільяшук вельмі хітра стараецца абяліць разбойніцкі і злачынны бальшавізм і нават, каб атуманіць чытачоў, дык штучна таксама лае кліку Сталіна і яго памагатых. Плача кракадзілавымі слязьмі. Але галоўная яго мэта ў артыкуле — гэта з усіх сіл пачатак другой сусветнай вайны і падзел Польшчы двума тыранамі — Гітлерам — Сталіным ахрысціць «вызваленнем» Заходняй Беларусі цераз бальшавікоў у 1939 годзе восенню. Бо, як вядома, па згодзе Сталіна — Гітлера і пакта Рыбентропа—Молатава палавіна Польшчы з усходу апынулася пад акупацыяй бальшавікоў, і, па словах аўтара, «яны прынеслі нам, беларусам усходніх крэсаў», райскае жыццё. Не інакш, А. Ільяшук фанатычны бальшавік, калі адважыўся так пісаць.

Я згодны, што нашы людзі былі атуманены бальшавіцкай прапагандай і манною, бо і сапраўды «соллю і хлебам» віталі «вызваліцеляў» і выстаўлялі розныя брамы для іх. Але скора гэтыя «соль і хлеб» бокам вылезлі нашым цёмным і атуманеным людзям. Бо з агня (польскай санацыйнай галечы) апынуліся ў полымі (бальшавіцкім чырвоным фашызме). Гісторык М. Іваноў праўду пісаў аб гэтым. Барані нас Божа ад такога вызвалення. У нашыя тэрэны Заходняй Беларусі хлынула, як мошка, з усходу кацапская навальніца. Ехалі і ехалі рознымі сродкамі транспарту розныя камісары, сакратары партыі і іншая сволач цэлымі сем'ямі, і афіцэры, і жыдаўня. Агалілі дачыста ўсе крамы і магазіны. А. Ільяшук цешыцца, што беднякоў надзялілі зямлёю. Але як надоўга? І каб не вайна Гітлера з Саветамі ў чэрвені 1941 года, дык пэўна, што з кожнай беларускай вёскі найлепшыя гаспадары пайшлі б у Сібір і на Салаўкі. Такі самы лёс спаткаў бы і палякаў, пражываючых на нашай зямлі. Толькі шчасце, што не ўспелі, хаця з некаторых беларускіх вёсак пачалі вывозіць на «цьвёрдую выпраўку» і нашых людзей. А. Ільяшук піша, што, маўляў, хто бачыў, «каб акупанты давалі бясплатна сялянам зямлю, а бальшавікі далі». О, якое шчасце! О, яны добранькія, хоць прыкладай да раны, бо і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі «надзялілі» таксама беднякоў памешчыцкай зямлёю, а праз некалькі гадоў закабалілі ўсіх у калгасы і дачыста ўсіх агалілі. Пазабіралі кароўкі з вяроўкамі, збожжа, паразбіралі ўсякія пабудовы, і сяляне сапраўды жылі, як у раю, голыя, як Адам з Еваю. А хто быў супраць гэтага, дык бог-Сталін меў для іх сваё месца — Сібір.

Такі самы лёс спаткаў бы і нашых людзей з гэтай зямелькаю. Праз некалькі гадоў так мы яе бачылі б, як свае вушы. Ці аб гэтым А. Ільяшук ніколі не думаў?.. Далі толькі для пацяшэння, каб потым адабраць. Ці ён не ведае, што кожны таталітарны рэжым нікому і ніколі вызвалення не даў і не дасць?! Цэлы СССР—гэта была турма народаў. Гітлер таксама свае «паходы» называў вызваленнем ад таго ці другога. А вайну з СССР называў вызваленнем ад бальшавізму-камунізму. І многа было такіх, што верылі гэтаму. Таксама і Беларусь, па яго словах, — гітлераўская армія «вызваляе» ад кіпцюроў бальшавізму і нават школьніцтва, і родная мова лепш развівалася, як перад самай вайною, пры Сталіне. Што, мо не так?

Нават маю ў сябе беларускі каляндар «Гаспадар», выдадзены пры акупацыі ў 1943 годзе ў Беластоку, ёсць нават у ім верш К. Буйлы: «Люблю наш край, старонку гэту». У той час, калі паэтэса жыла ў Маскве і ішла крывавая вайна, сталінская ўлада ніколі не дазволіла б, каб у сваім нейкім часопісе ці календары змясціць верш свайго паэта, пражываючага ў Берліне. Бо ў яе ўсе такія былі ворагі і здраднікі. Мо не так?

Але барані Божа, я не стараюся і не думаю бараніць і абяляць тырана Гітлера і яго ўладу, але толькі даю прыклад. Бо гэта вораг! Але і Сталін, і яго кліка нічуць не лепшыя. Аднаго поля ягада.

А тое, што Беларусь «развівалася і мела дасягненні» пры сталінскай уладзе, дык гітлераўская Германія яшчэ лепш развівалася і на сённяшні дзень загнала нас усіх у казіны рог. Мы жабракі ў параўнанні з немцамі, бо ў нас гэта камуністы так «дагаспадарыліся». А ці А. Ільяшук не ведае тое, што ўсе важнейшыя гарады, заводы, фабрыкі, электрастанцыі ў Сібіры і не толькі пабудаваны на чалавечых касцях?

На заканчэнне хачу сказаць найгалоўнейшае: камуністы далі вызваленне толькі гультаям, зладзеям, бандытам, крыміналістам — і далі жыццё і ўладу, і, на жаль, па сённяшні дзень яны правяць. І таму такая бяда.

**Мікалай ПАНФІЛЮК.**
Польшча.

---

# ПРАДВЕСНІК СВАБОДЫ

Шаноўная рэдакцыя!

Шчыра дзякую за ваша пісьмо. З яго даведаўся, што выняткі з аўстралійскіх газет, якія я вам дасылаю, вас зацікавілі, бо вы маеце магчымасць параўнаць вашу прэсу з нашай. Аднак падзеі ў вашай краіне разгортваюцца так хутка, што навіны вельмі скора старэюць. Тым не менш, заўсёды цікава даведацца, як аўстралійскія эксперты разглядаюць вашы праблемы, як уяўляюць развіццё падзей далей. Дзякуй за вашу газету, за тое, што вы пра мяне не забываеце.

Хацеў бы, каб вы ў сваёй газеце надрукавалі верш Я. Купалы, напісаны ім у 1908 годзе «Роднае слова», які належыць да патрыятычных твораў паэта. У ім даецца мастацкае асэнсаванне роднай мовы ў жыцці і гістарычнага лёсу беларускага народа. Верш напісаны ў час сталыпінскай рэакцыі, калі розныя шавіністы і чарнасоценцы ганьбавалі беларускую культуру, народ, мову, прадказваючы ім непазбежную гібель.

Верш з'яўляецца гнеўным паэтычным адказам на гэтыя брудныя нападкі, што і вызначыла яго публіцыстычную завостранасць. Паэт бачыць у родным слове найперш магутную сілу, здольную ўскалыхнуць душу і заклікаць яе да творчага жыцця. Свабоднае роднае слова з'яўляецца прадвеснікам свабоды.

Калі суайчыннікі за мяжой прачытаюць гэты верш, яны даведаюцца аб вялікай вартасці роднага слова.

З павагай і найлепшымі пажаданнямі

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

*АД РЭДАКЦЫІ: Па просьбе нашага земляка друкуем верш Янкі Купалы «Роднае слова».*

**Янка КУПАЛА**

## РОДНАЕ СЛОВА

**Магутнае слова, ты, роднае слова!**
**Са мной ты на яве і ў сне;**
**Душу мне затрэсла пагудкаю новай,**
**Ты песень навучыла мяне.**

**Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!**
**Ты крыўды, няпраўды змагло;**
**Хоць гналі цябе, накладалі аковы,**
**Дый дарма: жывеш, як жыло!**

**Свабоднае слова, ты , роднае слова!**
**Зайграй ты смялей, весялей!**
**Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,**
**Жывеш ты на хвалу людзей.**

**Загнанае слова, ты, роднае слова!**
**Грымі ж над радзімай зямлёй:**
**Што родная мова, хоць бедная мова,**
**Мілей найбагатшай чужой!**

---

## У КАМЯНЕЦ-ПАДОЛЬСКУ ПРАЙШОЎ «РЫМ-III»

# САМАЕ СТРАШНАЕ БЫЛО ЎЧОРА?

Вясной 1990 года ў Рыме сабраліся навукоўцы чатырох краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы — Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны. Яны абгаварылі пытанні супольнай гісторыі, стварылі камітэт для каардынацыі даследаванняў. Удзельнікаў прыняў Папа Рымскі Ян Павел II.

З таго часу аналагічныя сустрэчы сталі праводзіцца рэгулярна. «Рым-II» прайшоў летась у Любліне. Увага там была засяроджана на гістарыяграфіі, школьных падручніках. Было вырашана пашырыць лік краін Цэнтральнай Еўропы — ўключыць Чэха-Славакію, Венгрыю.

Наша газета паведамляла, што сёлета ў канцы мая ў старажытным украінскім горадзе Камянец-Падольску збіраўся «Рым-III». Міжнародная навуковая канферэнцыя абмяркоўвала пытанні, звязаныя са становішчам чалавека, фармаваннем грамадзянскага супольніцтва ў новай пасткамуністычнай рэальнасці, якая складваецца ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Беларусь на канферэнцыі прадстаўлялі відныя навукоўцы, сярод якіх быў намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Алег Трусаў.

Наша гутарка з ім пачалася з таго, што Алег Анатольевіч паклаў перада мной некалькі брашур на польскай мове, даволі дасканала выдадзеных у суседняй краіне. «Гродна», «Нясвіж», «Слонім», «Ліда» — напісана на вокладцы. І там жа пазначана серыя «Бібліятэчка крэсова». Пра змест няцяжка здагадацца: жыхары Гродна, Ліды, Слоніма, Нясвіжа (пералік можна працягваць) не павінны забываць, што жывуць яны ў спаконвечных польскіх гарадах, але на «крэсах», і таму не варта разлічваць на асаблівую самастойнасць і роўнасць.

— У сувязі з гэтым я хацела б пачуць, Алег Анатольевіч, вашу думку наконт «Міжнароднага круглага стала», які нядаўна прайшоў у Мінску і быў прысвечаны Вялікаму княству Літоўскаму. Галоўнымі экспертамі на гэтай сустрэчы былі палякі.

— Да «круглага стала» я стаўлюся неадназначна. Думаю, што праца ў гэтым напрамку толькі пачалася. Варта правесці падобныя сустрэчы і з літоўцамі, яшчэ і з украінцамі. Добра, што правялі «круглы стол» з Польшчай. Бо тое, што польскія спецыялісты сусветнага ўзроўню на беларускай зямлі засведчылі, што Княства Літоўскае было беларуска-літоўскім гаспадарствам, ставіць крыж на розных тэрытарыяльных прэтэнзіях да Беларусі.

На канферэнцыі ў Камянец-Падольску таксама абмяркоўваліся пытанні нашай гісторыі, і ў прыватнасці гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

Пагадзіліся на тым, што па Княству трэба стварыць чатырохбаковую камісію, адпаведна колькасці зацікаўленых дзяржаў — Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, знайсці спецыялістаў і прыступіць да напісання падручнікаў, у якіх максімальна аб'ектыўна была б адлюстравана мінуўшчына. Гэта неабходна для таго, каб на нашых землях не паўтарылася тое, што адбываецца ў Югаславіі.

— Тэзісы вашага даклада азагалоўлены: «Пераадоленне імперскага сіндрому ў выкладанні нацыянальнай гісторыі». Імперскі сіндром — вы маеце на ўвазе Расію?

— І не толькі, а і Літву, і Польшчу, хаця Расію ўсё ж найбольш. Сумесна з украінцамі, такімі ж занядбанымі на працягу стагоддзяў, як і беларусы, мы выступаем супроць гэтага занядбання.

У сваім дакладзе на канферэнцыі я даводзіў, што пасля знікнення з геаграфічнай карты свету самай вялікай за ўсю гісторыю чалавецтва таталітарнай дзяржавы пад назвай СССР у гістарычнай навуцы былых савецкіх рэспублік запанавала разгубленасць. Бо ўсе падручнікі па гісторыі СССР, што складаліся з прэпараванай у адпаведнасці з бальшавіцкімі догмамі гісторыі Расіі і некаторых дадаткаў з гісторыі асобных дзяржаў, што некалі паглынула супердзяржава, сталі нікому непатрэбнымі.

Паўстала праблема па стварэнню непалітызаваных, пазбаўленых пэўных ідэалагічных перакосаў, падручнікаў. Каб іх стварыць, неабходна сумеснымі намаганнямі беларускіх і ўкраінскіх гісторыкаў пераадолець наступныя імперскія гістарычныя міфы:

1) Існаванне ў IX—XIII стагоддзях «старажытнарускай дзяржавы» і «старажытнарускай народнасці».

2) Канцэпцыя Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы літоўскіх феадалаў, што сілай захапілі беларускія і ўкраінскія землі.

3) Рэч Паспалітая — дзяржава польскіх феадалаў (паноў), што заняволілі беларускі, украінскі і літоўскі народы.

4) «Вызваленчая» вайна беларусаў і ўкраінцаў 1648—1667 гадоў з мэтай далучэння да Расійскай дзяржавы.

5) «Уз'яднанне» Беларусі і часткі Заходняй Украіны з Расійскай імперыяй як станоўчы фактар гісторыі беларусаў і ўкраінцаў.

6) Замоўчванне і фальсіфікацыя гісторыі ўзнікнення незалежных Беларускай і Украінскай дзяржаў у 1917—1918 гадах.

7) Акрамя гэтых і іншых гістарычных міфаў, беларускія і ўкраінскія гісторыкі павінны агульнымі намаганнямі даць ацэнку вынікаў драпежнага Рыжскага міру 1921 года, а таксама пакта Молатава—Рыбентропа 1939 года, напісаць праўдзівую гісторыю Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху на тэрыторыі, часова занятай нямецкімі войскамі.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ПАД КІРАЎНІЦТВАМ АЛЯКСАНДРА АНІСІМАВА





Старэйшы прафесіянальны калектыў рэспублікі, сімфанічны аркестр Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі дасягнуў сусветнага ўзроўню выканаўчага майстэрства. Асновы яго фарміравання былі закладзены ў пачатку стагоддзя і цесна звязаны з традыцыямі беларускай нацыянальнай культуры, тэатральнага мастацтва.

За дырыжорскім пультам сімфанічнага аркестра тэатра ў розны час стаялі вядомыя майстры музычнага мастацтва. З 1989 года галоўны дырыжор аркестра — Аляксандр Анісімаў. Атрымаўшы музычную адукацыю ў Санкт-Пецярбургу, ён прыўнёс у работу калектыву тонкасці і акадэмізм пецярбургскай школы, стварыў спрыяльную творчую атмасферу.

З аркестрам выступалі многія вядомыя замежныя і рускія дырыжоры-гастралёры. У спектаклях і канцэртах з ім супрацоўнічалі М. Растраповіч, Г. Вішнеўская, А. Абразцова, І. Архіпава, М. Біешу, У. Атлантаў і іншыя славутасці. Калектыў — пастаянны ўдзельнік міжнародных оперных фестываляў. З яго мастацтвам добра знаёмы слухачы Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева. Аркестр выступаў у Балгарыі, Польшчы, Венгрыі, Кувейце, Германіі.

У лютым гэтага года калектыў упершыню зрабіў замежнае турнэ па Іспаніі з сімфанічнай праграмай. Публіка з захапленнем прымала беларускіх музыкантаў. Аркестр атрымаў запрашэнні выступіць з самастойнымі праграмамі ў Італіі і Югаславіі, плануецца яго ўдзел у замежных гастролях з балетнай трупай у Таіландзе і з опернай — у Заходняй Еўропе.

Вырашаць вялікія і цікавыя задачы аркестру тэатра памагае майстэрства дырыжора Аляксандра Анісімава. Ён шмат і плённа працуе. У ліку прэм'ер, што прайшлі пад кіраўніцтвам Анісімава ў апошнія два гады — «Маддалена», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Кармэн», «Спячая прыгажуня», «Карсар». Зараз дырыжор пачаў падрыхтоўку новых спектакляў — «Франчэска да Рыміні» Рахманінава і «Іаланты» Чайкоўскага.

НА ЗДЫМКАХ: за дырыжорскім пультам Аляксандр АНІСІМАЎ; сімфанічны аркестр Вялікага тэатра.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.

# САМАЕ СТРАШНАЕ БЫЛО ЎЧОРА?

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

Для вырашэння гэтых складаных пытанняў я б прапанаваў на дзяржаўным узроўні стварыць сумесную беларуска-ўкраінскую камісію, у якую могуць увайсці прадстаўнікі грамадскасці, палітычных рухаў, партый, навукоўцы, журналісты, а таксама народныя дэпутаты адпаведных парламенцкіх камісій.

— Алег Анатольевіч, на канферэнцыі ішла гаворка, што падручнік па гісторыі будзе пісацца навукоўцамі чатырох краін. Як на практыцы гэта будзе ажыццяўляцца?

— Дамовіліся, што падручнік будзе чатырохбаковы. Беларусь, Літва, Украіна, Польшча маюць аднолькавае права на гістарычную спадчыну —гэта важны маральны аспект. Практычна ж задума павінна ажыццяўляцца наступным чынам: спачатку чатыры дзяржавы пішуць чатыры падручнікі, кожная са сваёй званіцы. Мы пішам гісторыю Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. У жніўні павінна адбыцца сустрэча ў Кракаве, дзе будуць узгоднены аўтарскія калектывы, вызначаны тэрміны напісання.

— Калі не сакрэт, хто стане аўтарам беларускага падручніка?

— Ніякага сакрэту няма. Гэта маладыя гісторыкі Літвін і Сагановіч, пазбаўленыя, на мой погляд, догмаў застойных часоў і якія не падпадалі ў свой час пад уплыў абэцэдаршчыны. Аўтары бяруць на сябе маральны абавязак, падпісваючы пагадненне. Сума ганарару, мінімум у два разы больш за сярэднія месячныя заробкі вучоных, будзе выплачвацца ў валюце. Усе матэрыяльныя выдаткі бярэ на сябе амерыканскі фонд па распрацоўцы альтэрнатыўных падручнікаў розных краін свету.

— Чаму, на вашу думку, амерыканцы так зацікаўлены ў тым, каб у славян, і ў беларусаў у прыватнасці, з'явіўся свой падручнік па гісторыі? Ці не праследуюць яны нейкія свае мэты?

— Вядома, не трэба думаць, што яны гэта робяць проста так. Іх асноўная мэта — забяспечыць у Еўропе па магчымасці нармальнае жыццё, таму што ім гэта выгадна. І яшчэ яны зацікаўлены ў тым, каб на тэрыторыі былога СССР не адрадзілася камуністычная таталітарная дзяржава, каб гісторыя не паўтарылася.

— Як хутка мы зможам атрымаць новы падручнік?

— Гады праз два. Год даецца кожнай дзяржаве на напісанне свайго падручніка і яшчэ год, каб выдаць аб'яднаны. Праз год школы павінны атрымаць падручнік.

— А калі з'явіцца потым агульны, ці не давядзецца дзецям перавучвацца?

— Памылкі магчымыя.

— Я маю на ўвазе не памылкі, а розныя пункты гледжання.

— У Францыі існуе да 30 альтэрнатыўных падручнікаў па гісторыі, і ў кожным свая канцэпцыя. Настаўнікі абавязаны выкласці дзецям праграму-мінімум. Што звыш яе — залежыць ад адукацыі, поглядаў, псіхалогіі, сумлення настаўніка. Добра было б, каб і ў нас так.

— Здаецца мне, што няведанне беларусамі сваёй гісторыі ў нечым перашкаджае іх свядомаму вывучэнню роднай мовы. Яны не адчуваюць гордасці за сваё мінулае, так і не ведаюць сваіх каранёў.

— Вы маеце рацыю на ўсе сто працэнтаў. На днях да мяне прыходзілі палкоўнікі і генералы з нашага Міністэрства абароны. Яны распрацавалі план пераводу войска на беларускую мову. Ваенныя людзі лепш за іншых разумеюць, што не будзе беларускай гісторыі, шматвяковых ваенных гістарычных традыцый — не будзе войска, а не будзе войска, то не стане і дзяржавы.

Спадзяюся, што акрамя чакаемых падручнікаў, нам яшчэ дапаможа гістарычны часопіс, які ствараецца па прапанове нашай камісіі. Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. У ім, спадзяёмся, будуць сур'ёзныя публікацыі вядомых вучоных, раздзелы па краязнаўству, археалогіі, нумізматыцы, геральдыцы, грамадзянскай гісторыі, гістарычнай геаграфіі: каб кожны чытач знайшоў для сябе ў часопісе адзін-два цікавыя матэрыялы. Такі часопіс таксама будзе спрыяць стварэнню нармальнага падручніка.

— У будучыні, відаць, нас чакае ўсё ж нешта светлае. Самае страшнае — гэта народ без сваёй гісторыі. Тое, што маем сёння.

— Самае страшнае, дзякуй Богу, было ўчора. Сёння ўжо пайшло Адраджэнне.

Гутарку вяла
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

**P. S. «Рым—IV» вырашана правесці ў Беларусі ў чэрвені 1993 года. Яго праблематыка — суадносіны рэгіянальных і нацыянальных культур у мінулым і сучасным.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

Васіль ЗУЁНАК

***

— А што ў цябе, бяроза, на сняданак!
— Самотны ранак, ветрам разгайданы.
— Тады заходзь, папі са мною чаю:
Ён ад адчаю часам выручае...

— А што ў цябе, бяроза, на абед!
— Усё, што выставіў Чарнобыль на загнет.
— Тады заходзь, глыні са мною кроплю:
У белай, кажуць, чорная патопне...

— А што ў цябе, бяроза, на вячэру!
— Чарнобыль зноў і той жа смутак шэры.

— Тады і я цябе не пагукаю,
Бо сам, здаецца, толькі гэта й маю...

***

Я слухаю моўчкі зямлю
І з небам вяду гаворку:
Якую ў сусвеце люблю
Высокую самую зорку.

Не бачаць людзі яе,
І Богу яна невядома,
А мы з ёй даўно свае,
Яна ў маім сэрцы, як дома.

І сніцца, і мроіцца мне —
Планіда маёй Беларусі...
Я сам не знайшоў яе — не,
Але і згубіць баюся.

***

Хоць я не Бог, я вам даю
свабоду
Ад вечнага, ганебнага ярма,
Даю вам запавет: няма
народа,
Калі агню ў яго душы няма.

Калі ў сусвеце не палае зоркай
Яго прарочы геній і абы
Чужое літасці прасіць чужой
гаворкай,—
Тады жывіце на зямлі, рабы!..

Віктар ЛУЖКОЎСКІ

### БЕЛАРУС

Занадта крута ўздыблена вярста
У новы дзень, што высветліў надзеі.
Спяшаюся ў жыцці, каб наварстаць
Руплівыя, запозненыя дзеі.

З плячэй натруджаных здымаю груз —
Лухты і крыўды цяжкае каменне:
Не веру я, што счэзне беларус,
Як вечны Зніч славянскага пламення.

Не раз былі мы ў пекле і агні,
Не раз за намі смерць з касой хадзіла.
Нязгасна Зніч таіўся ў глыбіні,
Сівых стагоддзяў маладое дзіва

З азёр і рэчак вычышчаю бруд,
Ратую ад набегаў пушчаў душы,
Нясу зласціўцу кожнаму прысуд,
Зрываю маскі з нэндзаў крывадушных.

Не час мне сёння страты шкадаваць,
Раўняць вярсту, што павярнула крута.
Мне б край на выміранне не аддаць
Ды зняць з плячэй стары цяжар пакуты.

## ТВОРЧЫ САКРЭТ ПАЎЛА МАЛЧАНАВА

# ДАРОГА ДА ВЯРШЫНЬ



П. МАЛЧАНАЎ у ролі Гамлета.

Яму б споўнілася сёлета дзевяноста. Павел Малчанаў — акцёр незвычайнага таленту, неабсяжнага творчага дыяпазону. Артыст стварыў многа па-мастацку дасканалых сцэнічных вобразаў класічнага і сучаснага рэпертуару: Леніна ў «Чалавеку з ружжом» М. Пагодзіна, Дарвідошку і ўрадніка Шышлу ў п'есах Якуба Коласа «У Пушчах Палесся» і «Вайна — вайне!», дзівака Кутаса з купалаўскіх «Прымакоў» і ўзвышанага шэкспіраўскага Гамлета, вытанчанага Сорына ў «Чайцы» Чэхава і лёгкадумнага Бобчынскага ў «Рэвізоры» М. Гогаля, Каліберава ў «Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка і доктара ў п'есе «Забытыя ўсімі» Назыма Хікмета.

Часта маладыя акцёры пытаюцца: у чым сакрэт яго бліскучага поспеху? Малчанаў — мастак вялізнага таленту, памножанага на штодзённую тытанічную працу.

...Гэта было яшчэ да рэвалюцыі. Навучэнцы Гомельскай настаўніцкай семінарыі ставілі «Вяселле» А. Чэхава. На сцэну выйшаў лакей і сказаў: «З чым загадаеце падаць марожанае — з ромам, з мадэрай ці без нічога?» Вось і ўся роля, з якой выступіў малады семінарыст. І хіба мог тады хто-небудзь уявіць, што гэтая рэпліка стане першымі сказанымі са сцэны словамі выдатнага акцёра, народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Паўла Сцяпанавіча Малчанава.

У вёсцы Івольск Чабатовіцкай воласці Рэчыцкага павета хату Малчанавых мог паказаць кожны. Яе гаспадар — бедны малазямельны селянін Сцяпан быў тым не менш чалавекам надзвычай жыццярадасным, вясёлым, гасцінным. Да таго ж заўзятым скрыпачом. І ў хаце заўжды было мнагалюдна, шумна. Дужа жвавы і ўражлівы, старэйшы сын Павел зачаравана слухаў бацькаву музыку, спевы, былі-небыліцы. Заўважыўшы ў сыне прагную цікаўнасць, бацька сказаў аднойчы: «Трэба вучыцца табе, сынок. Няхай я непісьменны, няхай астатніх дзяцей не здолею вывучыць, а ты паспрабуй у навуку прабіцца...»

«Я крочыў поруч з бацькам, — успамінаў акцёр, — ад яго слоў набягалі на вочы слёзы, але я стрымліваўся і даваў самому сабе наказ добра вучыцца, апраўдаць клопат і спадзяванні бацькі».

У 1913 годзе адзінаццацігадовы Павел Малчанаў паступіў у двухкласнае сельскае вучылішча за дзевяць кіламетраў ад яго роднай вёскі ў валасным сяле Чабатовічы. Кожную нядзелю вучань прыбягаў дадому па харчы — бохан хлеба, пляшку алею, фунты два проса клалі яму ў торбу на тыдзень. Бацька часам даваў яму яшчэ рубель грошай. Вучыўся Павел выдатна. На ўроках спеваў хутка авалодаў нотамі і ў 14 гадоў ужо някепска разбіраўся ў харавой партытуры, яму давяралі камертон, і ён падчас кіраваў хорам самастойна. Потым навучыўся іграць на народных інструментах, а таксама на скрыпцы і гармоніку. Удзельнічаў у струнным аркестры — іграў на ўсіх інструментах.

Вялікі аматар музыкі і спеваў, тагачасны чабатовіцкі свяшчэннік не забываўся прыйсці на школьны канцэрт ні ў будзень, ні ў свята. З асаблівай сімпатыяй і павагай ставіўся ён да Паўла, заводзіў яго да сябе ў дом, даваў чытаць кніжкі са сваёй бібліятэкі, паіў чаем, частаваў мёдам са свежымі агуркамі, садавінай, праводзячы, надзяляў ладным кавалкам сала ці вяндліны. Неяк спаткаўшы на кірмашы Сцяпана Малчанава, бацюшка сказаў яму: «Даражыце сынам. Ён у вас дзіва-дзіўнае... Вялікім чалавекам будзе. Памянеце маё слова!»

Бацюшка адхінуў крысо, дастаў з кішэні залаты чырвонец, аддаў Сцяпану: «Гэта на паліто і чаравікі вашаму хлапчуку!»

Дабро адплацілася дабром. У 1935 годзе гэты немалады ўжо свяшчэннік быў абвінавачаны ў нейкай цалкам прыдуманай варожай дзейнасці і засуджаны на высылку ў Котлас. Павел Малчанаў, на той час вядомы ўжо кінарэжысёр і акцёр, узяў на сябе клопат дапамагаць матэрыяльна старой і нямоглай матушцы.

Але ж вернемся да перапыненай паслядоўнасці. У 1918 годзе памёр бацька, маці засталася з малымі дзецьмі. Павел, ужо семінарыст, не мог разлічваць на дапамогу з дому. Два апошнія гады навучання ў Гомелі былі самыя цяжкія — у краіне ішла грамадзянская вайна.

Скончыўшы педтэхнікум (так стала называцца семінарыя), вясною 1920 года Павел Малчанаў нейкі час настаўнічаў на радзіме, а потым паехаў на Украіну, заваблены ўкраінскімі таварышамі па семінарыі.

Амаль праз два гады Павел Малчанаў вярнуўся ў родны кут і быў прызначаны ў двухкласную школу ў Чабатовічах, у якой некалі вучыўся сам. Тут ён шырока выкарыстоўваў свой вопыт арганізатара і кіраўніка мастацкай самадзейнасці, набыты на Украіне. Аднак яму стала цесна ў вёсцы. Хацелася вучыцца далей. Многія яго равеснікі, сябры па семінарыі, вучыліся ў вышэйшых навучальных установах краіны. Нейкім чынам Малчанаў даведаўся, што ў Маскве ўжо другі год існуе Беларуская драматычная студыя, якая забяспечвае стыпендыяй і інтэрнатам. У снежні 1922 года ён быў ужо ў гэтай студыі.

Сустрэлі хлопца не сказаць, каб ласкава. Нейкі ён малапрыкметны: невысокага росту, хударлявы, негаманкі. Стаіць перад прыёмнай камісіяй нібы на ватных нагах і ад страху дрыжыць... Яму прапанавалі прачытаць на памяць што-небудзь па свайму выбару. Загучалі вершаваныя радкі Янкі Купалы. Чытаў не зусім упэўнена, але з тэксту не збіўся. Скончыў, заплюшчыў вочы, перамінаецца з нагі на нагу.

Члены экзаменацыйнай камісіі перашапталіся і пагадзіліся: «Не, не падыходзіць. Нейкі санлявы і бязмоўна бляклы». Але што такое? Мастацкі кіраўнік тэатральнай студыі Валянцін Смышляеў працягла маўчыць, пільна ўглядаецца ў вельмі разгубленага хлапца-беларуса. Нарэшце гаворыць цвёрда: «Не, тут нешта ёсць, бяру яго на сябе...» Членам камісіі засталося толькі пацiснуць плячамі...



Павел МАЛЧАНАЎ (справа) з артыстам Уладзімірам ДЗЯДЗЮШКАМ.

Студыец Павел Малчанаў горача палюбіў Валянціна Смышляева, славутага рэжысёра-педагога, непасрэднага вучня і паслядоўніка Канстанціна Сяргеевіча Станіслаўскага і таленавітага выкладчыка Барыса Афоніна. Яны развілі ў ім натуральнасць творчасці, артыстычную фантазію, а галоўнае — беззапаветную адданасць мастацтву.

Жывучы ў Маскве, Павел Малчанаў з сялянскай стараннасцю вучыўся ў студыі, а вечарамі хадзіў у тэатры, з захапленнем глядзеў спектаклі, вывучаў манеру ігры акцёраў. Яго юнацкую душу паланілі славутыя артысты — зямляк Васіль Качалаў, Міхаіл Чэхаў, Павел Арланеў, Іван Масквін, Леанід Леанідаў, а пазней Міхаіл Тарханаў. Тут Павел Малчанаў моцна здружыўся са студыйкай Любоўю Мазалеўскай, беларускай кіно- і драматычнай артысткай, якая потым стала вядомым тэатральным рэжысёрам, яго жонкай, адданай сяброўкай і незаменным памочнікам у творчасці.

— Беларускі ўрад матэрыяльна падтрымліваў і выкладчыкаў, і нас, студэнтаў, — гаварыў Павел Сцяпанавіч. — У перыяд вучобы нас неаднаразова наведвалі Янка Купала і Міхась Чарот. Яны цікавіліся нашым творчым выхаваннем. Падбадзёрвалі. Купала неяк асабліва прыхільна ставіўся да мяне, і я стаў яго асабістым другам назаўжды.

У 1926 годзе выпускнікі студыі заснавалі Другі беларускі дзяржаўны тэатр у горадзе Віцебску. З велізарным энтузіязмам, уласцівым маладосці, сыграў Павел Малчанаў матроса-гаваруна ў п'есе Барыса Лаўранёва «Разлом». Гэты спектакль цалкам быў удалы, ён высока ўзняў аўтарытэт тэатра ў рэспубліцы. «Я спяваў, — расказваў акцёр, — перакульваўся па палубе, выдумляў усялякія гісторыі, жартаваў. Нельга было не заўважыць такога вясёлага матросіка, і мяне адзначылі поруч з выканаўцамі асноўных роляў».

У 1930 годзе Павел Малчанаў па камандзіроўцы Наркамасветы быў накіраваны ў Ленінград на Беларускую кінафабрыку. Там працаваў пяць гадоў: быў асістэнтам рэжысёра, рэжысёрам і адначасова здымаўся ў кіно як акцёр. У 1932 годзе чатыры месяцы пражыў на Далёкім Усходзе, дзе стварыў дакументальны фільм пра Бірабіджан. У 1934 годзе разам з рэжысёрам Іосіфам Бахарам зняў таленавітую карціну для дзяцей і юнацтва «Палескія рабінзоны».

Сцэнарый «Палескіх рабінзонаў» напісаў Янка Маўр паводле сваёй аднайменнай аповесці. Кінематаграфісты пасміхаліся, што ў гэтым сцэнарыі каля трохсот старонак машынапісу (а звычайна трэба не болей як 70). Адаслалі ў Мінск аўтару гэты празмерна вялікі сцэнарый на скарачэнне, але той пакрыўдзіўся і не стаў рабіць. Кіраўніцтва «Белдзяржкіно» не турбавалася. Тады ўзбунтаваўся Павел Малчанаў. Ён выступіў на адной з чарговых вытворчых нарад і стаў горача даводзіць, што для моладзі не створана ніводнага беларускага фільма і ёсць пільная патрэба неадкладна распачаць працу. Для дастойнага пачатку лепшага сюжэта, як «Палескія рабінзоны», цяжка знайсці, а таму, парадзіўшыся з аўтарам, трэба запрасіць ленінградскага пісьменніка Яўгена Шварца, які мае вопыт у кінадраматургіі, з тым каб дапамог стварыць суразмерны, дабраякасны сцэнарый. Яўген Шварц вельмі ахвотна ўзяў на сябе працу і дасягнуў жаданага. Ужо было пачалі рыхтавацца да здымкаў, але, як гаворыцца, «апусцілі рукі», бо атрымалі загад з Масквы: прыпыніць дзейнасць. Было растлумачана: «Падлеткі ў сцэнарыі апалітычныя. Аніякай барацьбы не вядуць з кулацтвам. Трэба завастрыць сюжэт».

У здымачнай групе пачалі думаць, як разжыцца на кулакоў. Востраў жа, на якім павінна адбывацца дзеянне, — бязлюдны. Нічога не прыдумалі і напісалі ў Мінск Маўру, і той адказаў, што таксама не ведае, што рабіць. Тады звярнуліся да Шварца, і ён вырашыў справу так: «Няхай героі фільма Віктар і Мірон лічаць, што ляснік — не ляснік, а кулак. Памыляюцца ў гэтым, але высвятляць памылку толькі пад канец фільма. Якраз менавіта так будзе даказана, што абодва рабінзоны не апалітычныя, а, ого, якія пільныя»...

Новы варыянт сцэнарыя чакалі з Масквы вельмі доўга. Але ўсё ж дачакаліся афіцыйнага зацвярджэння.

...Рэжысёры і асістэнты шукалі выканаўцаў на галоўныя ролі, перагледзелі многа падлеткаў і натрапілі нарэшце на вельмі ўдалага кандыдата на ролю Віктара. Гэта быў Юмар Кучаеў — абаяльны і таленавіты хлопец з Васільеўскага вострава. А вось Мірона, другога рабінзона, усё яшчэ не было. Тады вырашылі пашукаць яго на беларускім Палессі. Карацей кажучы, звярнулі ўвагу на мяне, хлопца з невялічкай вёскі на Брагіншчыне...

У Ленінград поезд прыбыў на досвітку і спыніўся на другім паверсе Віцебскага вакзала. Так, так, гэта — не апіска. Перон знаходзіўся на другім паверсе, а выхад у горад — на першым. Да таго часу я ўжо дастаткова паездзіў па белым свеце, але нідзе не бачыў нічога падобнага. На канале Грыбаедава падышоў да вельмі арыгінальнага збудавання, у шырокіх і даволі высокіх дзвярах — зашклёная вяртушка ўваходу. Ад верху дзвярэй увышыню — велізарныя пласты суцэльнага і вельмі тоўстага, з сінім адценнем шкла. Зразумела, што ўнутры будынка шмат вясёлага і радаснага святла. Тут і ёсць — кінафабрыка «Белдзяржкіно».

На мастку, трымаючыся за чыгунныя парэнчы, стаіць сярэдняга росту мужчына. Левай рукою прытрымлівае да бляску начышчаны нікеляваны веласіпед даўняй канструкцыі, на якіх да рэвалюцыі віртуозна раз'язджалі на арэне ў час прадстаўленняў сапраўдныя цыркавыя монстры. Мужчына, відаць, аднекуль ехаў і спыніўся, каб паглядзець, як працуе рачная землечарпалка.

— Стыхія! За ёю не ўгнацца! — не то мне, не то самому сабе сказаў чалавек і, уважна паглядзеўшы на мяне, пальнуў:

— З прыездам, Алёша! Як там у нас?.. Мы з табой землякі па Рэчыцкім павеце. Давай знаёміцца. Я — Павел Сцяпанавіч Малчанаў. Магчыма, будзеш здымацца. Я ўхваляю выбар нашых асістэнтаў, якія знайшлі цябе на Брагіншчыне. Але патрэбна яшчэ проба на кінаплёнцы і зацвярджэнне на мастацкім савеце.

Незвычайна збянтэжаны, я спытаў: «Як жа вы здагадаліся, што я — гэта я?!».

Павел Сцяпанавіч весела ўсміхнуўся: «Вельмі проста: па куфэрку з нашых мясцін. Некалі з такім вось куфэркам я прыехаў у Маскву вучыцца ў Беларускай драматычнай студыі. Пасля аб гэтым мы яшчэ пагаворым. А цяпер такія справы: у ніводную гасцініцу не ўбіцца. Паабяцалі нашаму адміністратару ў гасцінічным трэсце, што ўладкуюць цябе, але не стрымалі слова. Зацягнулася нейкая абласная нарада, і ніхто з яе ўдзельнікаў яшчэ не ад'ехаў... Але не будзем бедаваць. Перадрэмлеш колькі сутак у мяне. Зручна тое, што мая жонка, актрыса Любоў Іванаўна Мазалеўская з дачкой Вавай зараз у кінаэкспедыцыі каля Ладажскага возера, і мы будзем адны. Хопіць часу падрыхтаваць цябе для кінапробы. Зоймемся эцюдамі»...

Аляксей СЛЕСАРЭНКА.

(Працяг будзе).

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




21 чэрвеня, нядзеля

## ПОЛАЦКАЯ АКАДЭМІЯ

**Доўгі час падручнікі пераконвалі нас, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь не мела вышэйшых навучальных устаноў. Гэта, далікатна кажучы, няпраўда. Такія ўстановы існавалі, ды толькі царскія ўлады раней ці пазней зачынялі іх, каб больш паспяхова праводзіць палітыку русіфікацыі і духоўнага заняволення нашага народа.**

**Адной з вышэйшых навучальных устаноў дарэвалюцыйнай Беларусі з'яўлялася Полацкая акадэмія, утвораная з мясцовага езуіцкага калегіума, які быў заснаваны яшчэ ў 1581 годзе.**

**Акадэмія мела тры факультэты: тэалагічны, філалагічны, дзе вывучалася лацінская, грэчаская, старажытнаяўрэйская, французская, нямецкая і руская мовы, і вольных мастацтваў з выкладаннем філасофіі, фізікі, матэматыкі, архітэктуры, грамадзянскага права і гісторыі. Побач з вучэбнымі аўдыторыямі размяшчалася карцінная галерэя, музей, абсерваторыя, вучэбныя лабараторыі. Каля 40 тысяч тамоў налічвала найбагацейшая ў той час на Беларусі акадэмічная бібліятэка, аснову якой складалі выданні XVII—XVIII стагоддзяў, у тым ліку працы Арыстоцеля, Эразма Ратэрдамскага і інш. Пры акадэміі дзейнічала друкарня, дзе выходзіў ілюстраваны часопіс «Месенчнік палоцкі».**

**Полацкая акадэмія мела статус універсітэта. Ёй падпарадкоўваліся ўсе езуіцкія навучальныя ўстановы Расейскай імперыі. Выкладанне вялося на польскай мове, але дзейнасць акадэміі ўсё адно спрыяла фармаванню нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі. Гэта і стала адной з галоўных прычын закрыцця навучальнай установы.**

**Уладзімір АРЛОЎ.**

29 чэрвеня, панядзелак

## «МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА»

**Дзецюкі!**

**Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўды.**

**Пыталі і пытаюць усе, што чуваці на свеце, хто нам, бедным мужыкам, дасць вольнасць! Но, праўду сказаўшы, мала хто хоча сказаці так, як сумленне кажа — па справядлівасці. Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць цэлую праўду, толькі слухайце нас!**

**Маскалі, чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас; но найдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць вашай свабоды, вашага шчасця, — яны вам самі гэта пісьмо даваці будуць, каб вы зналі, хто ваш прыяцель, а хто ваш вораг...**

*Выйшла 7 нумароў «Мужыцкай праўды». 1-шы нумар надрукаваны ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1862 года. Да канца 1862 года выйшла яшчэ 5 нумароў. 7-мы нумар выпушчаны ў 1863 годзе. Асобныя нумары перадрукаваліся паўторна (трохі адрозніваліся ад папярэдніх). Выдавалася невялікім фарматам, але значным тыражом, распаўсюджвалася амаль на ўсёй Беларусі, а таксама ў Літве і Латвіі. Кожны нумар падпісваўся псеўданімам «Яська — гаспадар з-пад Вільні». У выданні заўважаецца пэўны план, кожны нумар прысвячаўся якой-небудзь праблеме грамадскага жыцця. Усе нумары прасякнуты найважнейшым пытаннем эпохі — пытаннем зямлі і волі.*







Лета.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## СПОРТ

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Спартсмены 36 краін разыгралі прызы на міжнародных спаборніцтвах у германскім горадзе Котбусе.

Вось ужо каторы раз высокімі вынікамі радуюць нас беларускія атлеты Наталля Шыкаленка (кіданне кап'я), Генадзь Сухараў (скачкі з шастом), якім дасталіся галоўныя ўзнагароды.

ВЕСЛАВАННЕ. Чэмпіянат СНД у Маскве стаў апошнімі адборачнымі спаборніцтвамі перад паездкай на летнія Алімпійскія гульні. Па выніках яго трэнеры назвалі поўны састаў зборнай былога Саюза. У гэтым спісе ёсць і прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь: Сяргей Калеснік, Аляксандр Масяйкоў, Дзмітрый Даўгалюк, Аляксандр Грамовіч.

КУЛЯВАЯ СТРАЛЬБА. Алімпійская чэмпіёнка Сеула Ірына Шылава з Гродна атрымала перамогу на адкрытым першынстве СНД. У стральбе на 50 метраў з малакалібернай вінтоўкі яна выбіла 683,6 ачка.

Да гэтага наша зямлячка заваявала «серабро» ў стральбе з пнеўматычнай зброі.

У Ігара Басінскага і Сяргея Юрусава адпаведна другое і трэцяе месцы ў спаборніцтвах пісталетчыкаў.

## ЮРЫДЫЧНЫ СТАТУС ЭМБЛЕМЫ

Прыемная навіна прыйшла са штаб-кватэры МОК: зацверджана эмблема НАК Рэспублікі Беларусь. Яна, а таксама іншыя алімпійскія сімвалы з'яўляюцца выключнай уласнасцю Нацыянальнага алімпійскага камітэта РБ. Гэта ўласнасць ахоўваецца як дзяржаўным законам, так і Алімпійскай хартыяй.

Эмблема, а таксама іншыя алімпійскія знакі, сімвалы або найменні НАК Беларусі не могуць быць выкарыстаны ні ў рэспубліцы, ні за яе межамі без папярэдняй пісьмовай узгодненасці выканкома Нацыянальнага алімпійскай камітэта РБ.

НАК Беларусі на ўзаемавыгадных умовах можа прадаставіць права выкарыстання гэтай эмблемы або іншых алімпійскіх сімвалаў і найменняў прадпрыемствам, арганізацыям і прадпрымальнікам, якія зацікаўлены ў рэкламе сваёй прадукцыі, прасоўванні яе на міжнародным рынку.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Зак. 1158.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12